

Хор „Віссон”→3



Кася СЯНКЕВІЧ→8


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 23 (3030) Год LIX | Беласток, 8 чэрвеня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# З сябрамі і настаўнікамі

**Калі з мінулага асталіся ў нас дрэнныя ўспаміны, стараемся забыць пра іх. У былых вучняў Гайнаўскага белліцэя засталіся вельмі добрыя ўспаміны ад вучобы ў сваёй школе, аб чым заяўлялі падчас III З'езда выпускнікоў II Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковай вучобай беларускай мове ў Гайнаўцы, што праходзіў 31 мая і 1 чэрвеня. Прыбыло на яго каля 250 чалавек, якія закончылі адукацыю ў 1953-2003 гадах. Спаткаліся яны ў прыгожым мураваным будынку, але выдатная большасць сабраных вучылася яшчэ ў старым утульным драўляным будынку, які ўспаміналі з асаблівай настальгіяй. Аднак перш за ўсё з асаблівым сантыментам выпускнікі белліцэя ўспаміналі пабыўку ў школе, сяброў і настаўнікаў.**

— Я быў у першым наборы ў ліцэй у 1949 годзе. Тады здараліся выпадкі запалохвання моладзі, каб не ішла вучыцца ў беларускую школу і высылалі нас да Сталіна. Аднак маладыя не баяліся і паступалі ў беларускі ліцэй, дзе за выключэннем польскай мовы і можа яшчэ нейкага прадмета, уся адукацыя адбывалася па-беларуску. На беларускай мове мы вучыліся матэматыцы, фізіцы, хіміі, а па-свойму размаўлялі падчас перапынкаў. Дырэктарам быў Сяргей Сарока, а настаўніцай беларускай мовы — Таццяна Сафроненка. Была вялікая эмацыянальная сувязь паміж вучнямі і настаўнікамі, так што мы стваралі адну вялікую сям'ю. Закончыў я вучобу ў 1953 годзе. Засталіся незабыўныя ўспаміны і таму хочацца спаткацца з першымі навучэнцамі, супольна пагаварыць і паўспамінаць жыццё ў маладосці, — сказаў шматгадовы настаўнік Гайнаўскага белліцэя Аляксей Харкевіч.

— Выпускнікоў Гайнаўскага белліцэя трэба лічыць у тысячах. З'езд дае магчымасць прыехаць і спаткацца. Нашы белліцэі і ўсё беларускае школьніцтва далі нашым беларусам вельмі многа, бо з белліцэяў ішла беларускасць, — заявіў Васіль Сакоўскі, які вучыўся ў Бельскім белліцэі, а ў Гайнаўскім белліцэі перапрацаваў настаўнікам беларускай мовы ажно 35 гадоў.

Гэтых двух настаўнікаў і астатніх настаўнікаў-пенсіянераў Зінаіду Петручук, Уладзіміра Сцепанюка (дырэктара белліцэя), Анатоля Скепку, Аляксандра Лаўрыновіча (намесніка дырэктара школы) ды айца Георгія Ацкевіча віталі ўдзельнікі з'езда, бо менавіта пад іх наглядам і апекай здабывалі яны адукацыю і прыемна правялі школьны час. Сустрэчу адкрыў і прывітаў сабраных старшыня ўправы арганізацыйнага камітэта з'езду Анатоль Ахрыцюк, які вучыўся якраз у класе, выхавацелем якога быў Васіль Сакоўскі.

— Час з'езду гэта час успамінаў. Будзем вяртацца ў думках да гадоў маладосці. Ужо бачыў я вялікую ўзрушанасць і слёзы, якія пэўна будуць яшчэ паяўляцца ва ўдзельнікаў з'езду, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белліцэя Яўген Сачко, які расказаў пра дзейнасць школы і яе поспехі.

— Я рады, што вучыўся ў Гайнаўскім белліцэі, дзе захоўвалася свая добрая атмасфера, нашы традыцыі, беларуская культура і мова. Па-за з'ездамі мы ладзім таксама класавыя сустрэчы, — заявіў Мірослаў Раманюк.

Ян Хомчук ад вучобы ў белліцэі памятае толькі добрае і таму ўключыўся ў арганізаванне мерапрыемства. На з'езд выпускнікоў прыбыў галоўны рэдактар «Нівы» і заадно старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа, які вучыўся, а пасля працаваў у Гайнаўскім белліцэі настаўнікам гісторыі. Ён заснаваў і апекаваўся ў школе Клубам беларуска-польскіх спраў. У з'ездзе ўдзельнічалі былы старшыня Праграмнай рады тыднёвіка «Ніва» Валянцін Сельвясюк, нашы журналісты Аляксандр Вярбіцкі і Ілона Карпюк. Таксама ніўская „Зорка”, Ганна Кандрацюк ёсць абітурыенткай белліцэя.

— Вучоба давалася мне лёгка, таму магла я актыўна працаваць у карысць белліцэя і беларускай справы. Разгортвалі мы дзейнасць у Клубе беларуска-польскіх спраў, многа энергіі ўкладвалі ў беларускія турніры і сяткаванні. Хацелі мы, каб у школе захоўваўся беларускі дух і мы дзейнічалі ў гэтым напрамку, — сказала Ілона Карпюк, выдатная вучаніца, якая дабілася поспехаў у беларускай і экалагічнай алімпіядах, удзельніца гуртоў «Знічка» і «Гоман» ды валейбольнай і баскетбольнай школьных каманд.

— У нашым ліцэі была незабыўная атмасфера і высокі ўзровень навучання. Настаўнікі дбалі, каб у школе быў беларускі дух. Мы часам былі неадказнымі вучнямі, але калі слухаліся парад сваіх настаўнікаў, то выйшлі на людзей і дабіліся поспехаў у жыцці, — заявіў Яраслаў Кавальчук з Чаромхі, выпускнік 1969 года. Праслязіўся ён, успамінаючы настаўнікаў Уладзіміра Рушука, Аляксея Сельвесюка і Анатоля Корзуна, дырэктараў Анастасію Тропак і Аляксандра Іванюка.

Яго сяброўка Вера Ціханюк, ураджэнка Лушчоў, прыбыла на з'езд ажно са Злучаных Штатаў Амерыкі, дзе пражывае ўжо звыш трыццаці гадоў. Сказала, што ў школе любіла займацца валейболам і таму асабліва часта ўспамінае настаўніка фізкультуры Міколу Врублеўскага.

— Мы вучыліся ў белліцэі ў цяжкія часы. Была прага адукацыі. Настаўнікі, хаця былі патрабавальнымі педагогамі, нам дапамагалі. У школе быў беларускі дух, мы вучыліся па-беларуску, — гаварылі Максім Ганчарук і Ян Галубоўскі, якія закончылі ліцэй у пяцідзесятых гадах.

З настальгіяй успаміналі вучобу ў белліцэі Міхал Целушэцкі, Алік Петручук і іншыя мае суразмоўцы. Шкадаваліся яны, што не прыехалі на з'езд многія іх сябры. Хвілінай цішыні сабраныя ўшанавалі памерлых настаўнікаў і вучняў. Пасля прамоў удала выступілі белліцэісты. Яны дэкламавалі вершы, паказалі сцэнкі, гралі на музычных інструментах і спявалі. Музычныя ўмеласці паказаў школьны калектыў «Знічка», які дзейнічае амаль 19 гадоў пад наглядам Бажэны Ляўчук. Іншых вучняў падрыхтавалі да выступаў Янка Карчэўскі і Ірэна Стэльмах. У школе былі наладжаны выставы. На падставе насценгазет сабраныя маглі больш даведацца аб гісторыі, сучаснай дзейнасці і поспехах Гайнаўскага белліцэя. Удзельнікі з'езда пагледзелі таксама школьны комплекс.



Выпускнікі, якія закончылі вучобу ў 1953-1964 гадах

На з'езд прыбылі настаўнікі-пенсіянеры і настаўнікі, якія цяпер працуюць у іншых установах. Я сам працаваў у Гайнаўскім белліцэі настаўнікам беларускай мовы і меў нагоду паразмаўляць са сваімі вучнямі. Раз'ехаліся яны па Польшчы. Некаторыя жывуць па-за межамі краіны. Частка з іх усё ж такі прыбыла на з'езд, каб спаткаць сваіх сяброў, настаўнікаў, паразмаўляць аб жыцці ў мінулым.



Выпускнікі, якія закончылі вучобу ў 1982-1990 гадах з настаўніцай Зінаідай Петручук

Пасля агульнага спаткання па класах былі наладжаны сустрэчы настаўнікаў з групамі былых вучняў. Пасля абеду ў школьнай сталовай ахвотныя выпускнікі паехалі на гайнаўскія могілкі, каб на магілах настаўнікаў памаліцца і запаліць лампады. Вечарам у Гайнаўскім доме культуры адбыўся баль выпускнікоў. На другі дзень, 1 чэрвеня, удзельнікі з'езду падаліся на вузкакалейцы ў Тапіла ў Белавежскай пушчы. Там яны гасцявалі, танцавалі і працягвалі бяседы аб мінулым і сённяшнім жыцці. Ад саміх выпускнікоў будзе залежаць тэрмін чарговага з'езду, паколькі ў Гайнаўскім белліцэі не ладзяцца яны рэгулярна.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# Правы Чалавека і прыгоннае права

Хто б мог падумаць, што ў XXI стагоддзі, у цэнтры Еўропы, хтосьці ўсур'ёз можа разважаць пра ўвядзенне прыгоннага права. А вось і сталася, у Беларусі. Увядзенне яго цалкам мажлівае ў галіне сельскай гаспадаркі. На стале Галоўнага ўжо ляжыць адпаведны дэкрэт і з прыемным нецярпеннем чакае, калі яго завізуе славуты подпіс. Ляжыць-ляжыць — сам кіраўнік краіны вымавіў гэтыя словы. А ўслед за ім і астатнія кіраўнікі рангам значна ніжэйшым пачалі тлумачыць, што нічога страшнага ў гэтым прыгонным праве няма.

Ну ясна, што няма для сённяшняй дзяржаўнай прапаганды. Яны ўсё могуць перавярнуць з ног на галаву. Маўляў, хоць і прыгоннае, але ж права. Вось ушанаванне памяці палеглых у паўстанні 1863-1864 гадоў гэта для іх страшная з'ява. За гэта ў сучаснай Беларусі пераследуюць, судзяць, караюць. І цяпер ясна чаму. Кастусь Каліноўскі са сваімі паўстанцамі былі акурат супраць прыгоннага права. Не ўсведамлялі яны, малаадукаваныя мужыкі, як гэта зараз усведамляюць моцнаадукаваныя за народныя грошы беларускія чыноўнікі, што вяскоўца трэба ж неяк утрымліваць на зямлі. А то ж разбягуцца хто куды! Пазбірай паспрабуй іх пасля да кучы. Хто ж працаваць будзе?

Ды што там паўстанцы з XIX стагоддзя, якія толькі і хацелі, каб мірна і годна на той зямельцы працаваць без чужацкага прымусу. Усе еўрапейскія кіраўнікі па сённяшні дзень не могуць зразумець, чаму мужыка ад зямлі адпускаць нельга. Там у іх, у Еўропе, страшна падумаць: не толькі прыгоннага права няма, але нават прыватная ўласнасць на зямлю існуе. І што самае дзіўнае, ніхто на той зямлі нікога працаваць сілай не прымушае. Хочаш, бульбу на ёй садзі, а хочаш, у футбол гуляй. Можаш нават той бульбай замест мячыка. І ні прэзідэнты не ездзяць па калгасах з праверкамі, ні намеснікі. Ды і калгасаў тых няма зусім. Толькі вось дзіўная сітуацыя для беларускага чыноўніка — калгасаў няма, а мяса, малако, бульба, мёд ды іншыя прадукты ёсць. Хоць ты іх еш, хоць на морду мазай. Выбар цалкам належыць табе.

І пра прыгоннае права яны там зусім не думаюць. А думаюць усё больш пра іншыя правы — пра правы чалавека. Клапоцяцца, каб хто іх не парушыў нават крыху. Таму пра прыгоннае права ўжо зусім забыліся нават як пра з'яву дзікай і бесчалавечнай мінуўшчыны. Вось яно і атрымліваецца, што існаваць у адной асобна ўзятай краіне можа толькі адзін від правоў. Ці правы чалавека, ці прыгоннае права. Выбірайце, спадарства беларусы, калі ласка, што вам болей даспадобы. Двух варыянтаў быць не можа. Не ўжываецца прыгоннае права з правамі чалавека. Яно ў нас капрызнае, як нашае кіраўніцтва.

Вось нарэшце і нашы браты ўкраінцы, як і ўсе астатнія еўрапейцы, выбралі не прыгоннае права, а правы чалавека. І ў новага прэзідэнта Украіны ўжо тэрмін „прыгоннае права" можа звязвацца толькі з цёмнымі старонкамі гісторыі, калі акупанты не шанавалі ні жыцця, ні пачуццяў тых людзей, што жылі цяжкой працай. Новая ўкраінская ўлада разважае пра недапушчальнасць парушэння правоў чалавека, пра справядлівасць на ўсіх роўнях грамадскага і дзяржаўнага жыцця, пра свабоду для краіны і чалавека, пра павагу да кожнага індывіда, пра вартасць кожнай асобы. І можна з упэўненасцю сказаць, што сельская гаспадарка, як і іншыя гаспадаркі, там будуць толькі падымацца, бо ідуць яны праверанымі шляхам — шляхам свабоды, у тым ліку і свабоды асобы. Ну а свабодны не бывае галодны. Гэтым шляхам і еўрапейскія, і паўночнаамерыканскія, і многія іншыя краіны дасягнулі дабрабыту. Тут, як кажуць, ровар вынаходзіць не трэба.

Шлях прыгоннага права не новы, даўно праверany, і вядзе да занападу, голаду, рабства, поўнага бяспраўя, адчаю і сацыяльнага выбуху. Гэта ведае кожны школьнік, які па гісторыі мае адзнаку хаця б крыху вышэйшую за двойку. І зараз адбываецца асноўная праверка для беларусаў. Што ж на гэты раз, свядома і ведаючы пра ўсе наступствы, выбярэм мы. Прыгоннае права, ці ўсё ж правы чалавека.

■ Віктар САЗОНАЎ



# Указ
## аб абавязку есці бабра

Каля года назад прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ў сваім выступленні да студэнтаў Магілёўскага ўніверсітэта заявіў, што Беларусь павінна ісці сваім шляхам. Ані не абраным Расіяй, забруджаным нацыянальным шавінізмам і імперскім цынізмам, або тым, па якім ідзе разбэшчаны Захад, толькі самасвойскім, беларускім. Які шлях меў ён на ўвазе? Застылы ў постсавецкім музеі, забарыкадаваны ў сваім заплоцці і сляпы да цывілізацыйнага развіцця першабытнай аўтаркіі? Такой аўтаркіі, якой да нядаўняга часу ў мікрамаштабе былі пушчанскія, ізаляваныя старадрэвам вёскі: культурна самаінбрэдныя, неахвотныя інавацыям, недаверлівыя да старонніх, жывучыя сваім уласным, непахісным рытмам нараджэння і смерці, працы і свету, паўторнасці думак, архаічных поглядаў; вёскі са звычаямі племя загубленага на карце. Але ў часы спадарожнікаў, інтэрнэту племя не можа зацярушыцца на карце Зямлі. Не абрысоўваюць яе картографы, але камп'ютары. Той факт, што яны не могуць пракрасціся ў чалавечыя чарапы яшчэ робіць тое, што гэты незаплямлены прагрэсам свет яшчэ дагарае ў галовах старэч, каментуючых з пункту гледжання лавачак рэальнасць, якой цалкам не разумеюць. Да таго ж, не хочуць разумець. І што яшчэ горш, яны не змогуць зразумець. Парахнеюць паступова з лаўкамі, на якіх сядзяць. На жаль, усё больш і больш з іх страчваецца з падляшскіх вёсак. Людзей і лавачак.

Я не ведаю, ці магілёўскія студэнты ўзнагародзілі прэзідэнцкія словы апладысментамі. Магчыма так, таму што ўніверсітэцкія заліковыя кніжкі яшчэ ў іх не падпісаны. Я не сумняваюся, аднак, што многія з іх пачалі задавацца пытаннем пра сэнс далейшай адукацыі, пачуўшы чарговы аргумент Лукашэнкі. Тут я дадам, што не пазбаўлены ён лагічнай бесклапотнасці. Вось, па яго словах, калі Захад крытыкуе шлях, прыняты беларусамі, гэта абазначае, што яны прасоўваюцца ў добрым напрамку. А калі хваліць, яны павінны разгледзець, дзе зрабілі памылку. Цікава, аднак, што такіх лагічных суадносін не адважыўся прымяніць да Расіі. Ды што там! Хопіць таго, што Захад зразумеў намёк прэзідэнта ды Беларусі і лукашэнкаўскага панавання дарма не хоча пахваліць. З іншага боку не шкадуе крытыкі ні яму, што з'яўляецца неабвержным доказам таго, што беларусы ідуць па правільным шляху. Такім чынам, давайце паглядзім, куды гэтая дарога вядзе.

Шэпчуць у канфідэнцыйных плётках, што прэзідэнт Беларусі ўжо падрыхтаваў указ, які забараняе калгаснікам свабодную змену месца жыхарства, у прыватнасці міграцыю ў гарады. Паняволенымі калгаснікамі цяпер будуць кіраваць абласныя губернатары. Яны таксама павінны клапаціцца, каб «сяляне працавалі эфектыўна». Ці аканомскія бізуны ўжо адпраўленыя для губернатараў? Гэта немагчыма? Нагадаю, што ў 2012 годзе падобным указам прэзідэнта былі пакрытыя работнікі лясной прамысловасці. Без згоды кіраўніцтва завода яны не могуць уладкавацца на працу ў іншых галінах. Яны таксама не могуць адмовіцца ад працы на існуючым заводзе. Бунтарам пагражае пакаранне прымусовай працай. Ці падобныя абмежаванні чакаюць калгаснікаў? Тут варта нагадаць, што права сялян, якое прымацоўвала іх да зямлі, існавала ў Савецкім Саюзе ў шасцідзесятыя гады дваццатага стагоддзя, калі яго адмяніў Мікіта Хрушчоў. Да гэтага часу ніхто ў Расіі не збіраецца аднавіць гэтае права. Вызначана, што Беларусь ідзе сваім, беларускім шляхам. Не расійскім і не заходнім.

Вышэйпрыведзены прыклад не вычэрпвае палітычнага толку прэзідэнта Лукашэнкі. Адзначыўшы, што ў гэтым годзе будуць меншыя пастаўкі малака і мае месца рэзкае павышэнне коштаў на свініну, што з'яўляецца вынікам яе дэфіцыту ў Беларусі, рыхтуецца ў Беларусі новая, чыста беларуская канцэпцыя. Вось, Беларусь славіцца бабром, папуляцыя якога ацэньваецца ў 70 000 непрадуктыўна актыўных асобеняў. З бабра можна прыгатаваць катлеты, каўбасы, шашлыкі ці нават суп. Калі вага адной бабровай тушкі можа дасягаць 30 кг, пагарджаць такім рэзервуарам бялку ніяк нельга. Гаворка адно пра змяненне харчовых звычак беларусаў. Але і на гэта знойдзецца дэкрэт. Указ аб абавязку есці бабра. І калі ласка, такая канцэпцыя не залядзела ў галаву нікому ані ў Расіі, ані на Захадзе. Беларускі шлях — самы просты.

■ Міраслаў ГРЫКА



**Вачыма еўрапейца**

# Аляксандр САСНА дэпутатам

Дзякуючы перамозе 25 мая на выбарах у Еўрапейскі парламент Барбары Кудрыцкай, у састаў Сейма ўвойдзе яшчэ адзін — побач з Яўгенам Чыквіным ад СЛД — падляшскі дэпутат ад праваслаўнага і беларускага асяроддзя. Гэта Аляксандр Сасна, які нарадзіўся ў 1963 годзе ў Орлі, выпускнік юрыдычнага факультэта Беластоцкага філіяла Варшаўскага ўніверсітэта, дасюлешні намеснік прэзідэнта горада Беластока, які займаў гэтую пасаду з 2006 года, у адпаведнасці з пагадненнем паміж ГП (са спіска гэтай партыі Аляксандр Сасна балатаваўся на апошніх парламенцкіх выбарах) і самаўрадавага Форуму меншасцей Падляшша. На выбарах у Сейм у 2011 годзе апынуўся ён на шостым месцы, але ў гэтую палату парламента ад ГП на Падляшшы прайшло толькі пяць дэпутатаў і колькасць галасуючых на Сасну выбаршчыкаў не была дастатковай для таго, каб атрымаў ён месца ў парламенце. Аляксандр Сасна са снежня 2010 года з'яўляецца грамадскім дарадцам прэзідэнта Браніслава Камароўскага па справах беларускай і праваслаўнай меншасці. Падчас прэс-канферэнцыі, якая папярэднічае парламенцкай прысязе, сказаў ён: «Буду хацець прадстаўляць праваслаўную грамаду і нацыянальныя меншасці, якія пражываюць у Падляшскім ваяводстве, і не толькі іх. Я таксама спадзяюся, што буду прыняты ў клуб Грамадзянскай платформы (Аляксандр Сасна не з'яўляецца членам гэтай партыі — М. Х.). Узоры, якія былі распрацаваны ў Беластоку, я пастараюся перанесці ў Варшаву».

Таму, што сам па сабе не сказаў, што ён будзе прадстаўляць беларускую меншасць, распытваны журналістамі, пацвердзіў: «Так. У апошнім перапісе я выказаўся, што я беларускай нацыянальнасці, так я і мае бацькі. Часам рэлігійная меншасць займае ў мяне першае месца перад нацыянальнай, але дазвольце мне атаясамлівацца з беларускім і праваслаўным асяроддзем».

«Ніва» пацікавілася, якія ўзоры, аб якіх ён згадаў, хоча перанесці з Беластока. Былы намеснік прэзідэнта горада адказаў лаканічна: «Толькі добрыя». Ён таксама сказаў: «Меншасцям прыслугоўваюць у Рэчы Паспалітай усе правы, якімі карыстаюцца ўсе грамадзяне. Калі грамадзянам ідзе добра, так жа добра ідзе і меншасцям. Меншасці ўспрымаюць усе пытанні, звязаныя з дзяржаўнымі законамі, больш суб'ектыўна чым большасць. Ёсць пытанні, якімі гарыць праваслаўнае асяроддзе. Мабыць, мне ўдасца зрабіць што-небудзь у гэтых справах».

Успомніў, што, магчыма, удасца яму разам з дэпутатам Чыквіным «рушыць» пытанні кампенсацый для сем'яў праваслаўных ахвяр атрада Рамуальда Райса «Бурага», закатаваных адразу пасля вайны ў ваколіцах Бельска-Падляшскага: «Гэта не ёсць тэма, якая можа быць вырашана адным ходам. Гэтае пытанне звязана са зменай менталітэту, іншым поглядам на гэтыя факты».

У сваю чаргу, калі я спытаўся, як ацэньвае ён на практыцы працу Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях, сказаў: «Заўсёды можна сказаць, што можа быць лепш. Калі будзе звольнены ў Беластоку ці на Падляшшы камендант ці іншая ўладная асоба, якая выводзіцца з меншаснага асяроддзя, то гэта ўспрымаецца меншасцю, што ён быў звольнены па прычыне праваслаўнага веравызнання. Гэта прыклад суб'ектыўнага падыходу, які цяжка змяніць. Калі я заняў пасаду намесніка прэзідэнта, было зададзена пытанне, ці я буду будаваць у Беластоку беларускую рэспубліку або праваслаўную рэлігійную дзяржаву. Гэта было сем гадоў таму і не пабудаваў я ані беларускай рэспублікі, ані рэлігійнай дзяржавы. Нам удалося зрабіць некалькі рэчаў вакол царквы (у значэнні: для Царквы — М. Х.) і вакол гэтых спраў, за якія адказваю».

Сасна абвясціў, што хоча ён працаваць у парламенцкай камісіі па нацыянальных і этнічных меншасцях (адным яе віцэ-старшынёю з'яўляецца дэпутат Чыквін) і не ведае яшчэ, ці ўступіць у групу па справах Беларусі на чале з падляшскім дэпутатам Робертам Тышкевічам (шэфам падляшскіх структур партыі ГП), ці ў парламенцкую групу па супрацоўніцтве з Рэспублікай Беларусь на чале з Яўгенам Чыквіным, калі наогул уключыцца ў якую-небудзь з іх.

Яшчэ невядома, хто заменіць Аляксандра Сасну на пасадзе намесніка прэзідэнта горада, і ці ўвогуле да канца восеньскага тэрміну паўнамоцтваў гэта адбудзецца. Прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі заявіў, што пакуль яго бягучыя абавязкі будуць падзелены паміж іншымі намеснікамі прэзідэнта. Дэпутат Тышкевіч, аднак, адзначае: «За некалькі месяцаў адбудуцца мясцовыя выбары. Вядома, рашэнне за прэзідэнтам. Намер ГП — не пагоршыць узроўню ўдзелу меншасцей у беластоцкім самаўрадзе і такую рэкамендацыю перадамо прэзідэнту».

■ Мацей ХАЛАДОЎСКІ




Дырыжор хору «Віссон» Алёна Высоцкая



# Мінскі хор «Віссон» у Бельскім белліцэі

**Дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім Андрэй Сцепанюк з дапамогай бацькоўскага камітэта і настаўнікаў 24 мая сарганізаваў у сваёй школе канцэрт Маладзёжнага хору «Віссон» Рэспубліканскага цэнтра хрысціянскай культуры «Благавест» у Мінску. Дзень раней хор выступіў на XXXIII Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі «Гайнаўка-2014» у Беластоку, у рамках якога адбыўся бельскі канцэрт. Музычнае мерапрыемства арганізаванае было перш за ўсё з думкай аб бацьках бельскіх белліцэістаў і з мэтай паказаць ім праваслаўную духоўную музыку і беларускія народныя песні ў цікавых кампазіцыях і апрацоўках. Хор «Віссон» выступіў выдатна і захапіў сабраную ў суботні дзень у спартыўнай зале белліцэя публіку.**

Калі я зайшоў у будынак белліцэя, сабраных у калідоры вітала капэла хору «Віссон». Яшчэ да канцэрта ўдалося мне паразмаўляць з дырыжорам хору Алёнай Высоцкай.

— Кіраванне маладзёжным хорам гэта новы этап у маім творчым жыцці. У нашым хоры адбываецца яднанне духу, сэрца і галасоў. Цікавае адбываецца падчас рэпетыцый хору, што пасля можам выявіць падчас выступленняў, якіх за нядоўгі перыяд нашай дзейнасці было каля пяцідзесяці. Апрача духоўнай царкоўнай музыкі ў нашым рэпертуары важнае месца займае беларуская нацыянальная музыка, творы беларускіх кампазітараў і беларускія народныя песні ў апрацоўцы, — сказала кіраўнік і заадно дырыжор мінскага хору.

Алёна Высоцкая працуе настаўніцай харавых спеваў у адной з музычных школ і першым дырыжорам хору ў царкве прападобнамучаніка Афанасія Брэсцкага ў Мінску. Яна — выпускнік Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў, Мінскай духоўнай навучальнай установы і перш за ўсё Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі па спецыяльнасці харавое дырыжыраванне. Была яна студэнткай прафесара Міхала Дрынеўскага, члена журы Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі». Многія іншыя харысты «Віссона» спяваюць у прыхадскіх харах мінскіх цэркваў, некаторыя з іх з'яўляюцца царкоўнымі рэгентамі. Маладзёжны хор «Віссон» дзейнічае з 2010 года. У 2011 годзе мітрапаліт мінскі і слуцкі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі даў пісьмовае блаславенне на далейшую творчую дзейнасць хору. У асноўным хор састаўляюць студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў Мінску, хаця выступаюць таксама асобы немузычных прафесій, напрыклад эканаміст, інжынер, перакладчык. Назва хору паходзіць ад назвы шляхетнай тоненькай тканіны (часта ўпамінаецца яна ў гістарычных крыніцах і Святым Пісанні), да якой падобны далікатны пераплёт цудоўных музычных гукаў у рэпертуары мінскага хору. Канцэртныя праграмы хору «Віссон» збудаваны на перапляtанні харавых і сольных выступленняў.

— Сардэчна і шчыра вітаем вас на польска-беларускім памежжы, у старажытным горадзе Бельск-Падляшскі, — сказаў дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк і пахваліў хор «Віссон» за рэпертуар на беларускай мове.

— Мы будзем выконваць духоўную музыку, творы аўтараў беларускай зямлі і беларускія народныя песні, — заявіла дырыжор хору Алёна Высоцкая.

«Віссон» распачаў канцэрт з песні «Хрыстос уваскрос» па-беларуску з музыкай Алега Залётнева. Вельмі цікавым атрымалася выкананне беларускіх народных песень — «Ой, рэчанька, рэчанька» ў апрацоўцы Валянціны Глушчанка, «Месяц дагарае» ў апрацоўцы Сяргея Бераженова і «Зялёны гай», які запісаў сам Рыгор Шырма, а апрацаваў Канстанцін Галкоўскі. Вельмі ўдала былі выкананы на музыку Алёны Атрашкевіч харавы цыкл на словы Ганны Рубацкай. Дырыжор і заадно вядучая канцэрт Алёна Высоцкая расказала сабраным пра беларускую паэтэсу Ганну Рубацкую. Быў выкананы твор «З намі Бог» з музыкай Аляксандра Кастальскага. Хор «Віссон» выконваў выдатна духоўныя творы на царкоўнаславянскай мове, а да цікавага беларускага твора «Развітальная» словы напісаў Уладзімір Карызна, а музыку скампанаваў Уладзімір Карызна-малодшы, ягоны сын.

— У хоры «Віссон» займаецца каля сарака чалавек, але на фестываль прыехала каля трыццаці харыстаў. Мы дзейнічаем пры Рэспубліканскім цэнтры хрысціянскай культуры «Благавест» у Мінску, які вядзе, між іншым, дабрачынную дзейнасць, — сказала пасля канцэрта Алёна Высоцкая. — Хаця мы дзейнічаем нядоўга, то на конкурсных фестывалях станавіліся ўжо лаўрэатамі.

Маладзёжны хор «Віссон» атрымаў спецыяльны дыплом «Надзея» на II Рэспубліканскім радыёконкурсе творцаў «Маладыя таленты Беларусі». У мінулым годзе заняў ён другое месца на XX Міжнародным фестывалі духоўнай музыкі «Магутны Божа» ў Магілёве і трэцяе месца на XII Міжнародным фестывалі праваслаўных песнапенняў «Каложскі благавест» у Гродне. Падчас XXXIII Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі «Гайнаўка-2014» у Беластоку «Віссон» у катэгорыі прафесійных хароў заняў трэцяе месца.

— На фестывалі «Віссон» выступіў таксама цудоўна, — сказаў Сцяпан Копа, вядомы беларускі фальклярыст, які апекаваўся беларускімі харыстамі.

Хор «Віссон» выступаў у Францыі, Германіі і Чэхіі.

— Асаблівыя ўражанні засталіся ў нас ад удзелу ў фестывалі ў мясцовасці Бельфор у Францыі. Калі мы праязджалі праз Польшчу, то затрымаліся ў Познані. Гуляючы па горадзе, заспявалі мы на вуліцы перад пешаходамі, якія затрымлівалі-ся і слухалі наш спеў, — сказала Алёна Высоцкая. — Вельмі важным для нас быў актыўны ўдзел у беларускай прэм'еры араторыі «Страсці паводле Матфея» мітрапаліта Іларыёна (Алфеева) у вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў Мінску ў красавіку 2013 года.

Пры канцы канцэрта хор з Мінска праспяваў на народную мелодыю, у цікавай апрацоўцы Анатоля Багатырова, твор Канстанцыі Буйло «Люблю наш край, старонку гэту...», які з'яўляецца гімнам Бельскага белліцэя. Сабраныя былі пад вялікім уражаннем ад спеву хору «Віссон».

— Хор «Віссон» выступіў цудоўна і на вельмі высокім мастацкім узроўні. Я рада, што ў яго рэпертуары многа твораў на беларускай мове. Канцэрт цудоўна вяла па-беларуску дырыжор Алёна Высоцкая, — сказаў дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк. — Мы не маглі сарганізаваць канцэрта хору ў пятніцу, 23 мая, для нашых вучняў, бо якраз адбываўся пісьмовы матуральны экзамен. Аднак варта было б, каб і ліцэісты пазнаёміліся з высокай харавой культурай, каб пачулі наш школьны гімн у выкананні хору «Віссон».

— Я пад вялікім уражаннем ад канцэрта хору «Віссон», які выступіў па-майстэрску. У яго рэпертуары цудоўныя беларускія творы. Мне сёння асабліва спадабалася выкананне песні «Ой, рэчанька, рэчанька». Хор у цэлым цікавы і вартасны, — заявіў Сцяпан Копа.

— Я рада, што прыйшла на канцэрт. Хор запрэзентаваўся ўсебакова на вельмі высокім мастацкім узроўні. Цікавымі былі апрацоўкі народных беларускіх песень, спадабаліся мне сучасныя беларускія кампазіцыі, прыемна было слухаць царкоўныя творы ў добрым выкананні, — сказала настаўніца беларускай мовы ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску Валянціна Бабулевіч.

— Добра, што я прыйшла на канцэрт, бо магла пачуць цудоўную беларускую музыку, якая выконвалася вельмі далікатна, а адначасна на высокім мастацкім узроўні, — заявіла Клаўдзія Слíўко, былая працаўніца белліцэя.



Харысты віталіся і развітваліся з публікай музыкай, прадавалі кампакт-дыскі

Хор «Віссон» развітаўся з бельскай публікай інструментальнай музыкай, іграючы на калідоры. У белліцэі харысты прадавалі таксама кампакт-дыскі.

— Нам вельмі падабаецца пабыўка ў Польшчы. Сёння нам вельмі лёгка спявалася перад вашай публікай, была вельмі цёплая атмасфера, — заявіла мінская студэнтка Дар'я Тарасевіч, якая апрача харавых партый выступала з сольнымі творамі.

Бельская публіка апладзіравала пасля кожнага нумара, але асабліва гарачыя апладысменты пачуліся пасля завяршэння канцэрта. Сабраныя дзякавалі за майстэрства і беларускі рэпертуар.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Перамагаюць мацнейшыя...

З уваходам рыначнай эканомікі ў Чаромсе пачалі вырастаць як грыбы пасля дажджу гандлёвыя пункты. Але за час дваццаціпяцігадовай трансфармацыі маленькія крамкі не стрымалі канкурэнцыі і зніклі з гандлёвай карты. На чаромхаўскім рынку засталіся толькі два маркеты: «Аргелан» бельскіх прадпрымальнікаў па вуліцы Школьнай і «Левіятан» па вуліцы 1 Мая, якога ўладальнікам з'яўлялася кляшчэлеўская «Нітэрва». Паміж імі ўзнікла гандлёвае саперніцтва. Пайшла гаворка ў пасёлку, што «Аргелан» выкурыць з рынку кляшчэлеўскіх прадпрымальнікаў. Так было. 14 верасня 2011 года па вуліцы 1 Мая (непадалёк «Левіятана») адкрываецца новазбудаваны прасторны маркет «Аргелан». Пасля некалькіх месяцаў заўзятай канкурэнцыі «Нітэрва» не стрымала саперніцтва і аб'явіла банкруцтва. Маёмасць па вуліцы 1 Мая набывае беластоцкі прадпрымальнік, аб'яднаны ў гандлёвай сетцы маркетаў «Левіятан». Амаль год доўжыўся рамонт і мадэрнізацыя даўнейшага будынка (нота бене рэстарана «Прыгранічная», збудаванага ў сямідзесятых гадах). У тым жа часе адзіным маркетам у Чаромсе заставаўся «Аргелан» па вуліцы 1 Мая, затым другая пляцоўка таго ж прадпрымальніка па вуліцы Школьнай. Але астатняя падзяляе лёс абанкручанага канкурэнта і 1 сакавіка мінулага года спыняе сваю дзейнасць. Застаюцца зноў на рынку два суперсучасныя маркеты, заўзятыя канкурэнты. Ці новы «Левіятан» супрацьпаставіцца «Аргелану» пакажа час. На маю думку, для абодвух гандляроў хопіць месца на рынку. А ў народзе кажуць: "Дзе двух сварыцца, трэці карыстае". Гэтым апошнім будуць, зразумела, чаромхаўскія кліенты, бо пакарыстаюцца, несумненна, багатым асартыментам тавараў і прадуктаў па прамацыйных цэнах. І ў гэтым заключаецца існасць рыначнай эканомікі.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Беларускія дзеячы ўзнагароджаныя

Медаль „Заслужаны для горада Бельска-Падляшскага" атрымаў Сяргей Лукашук — шматгадовы дырэктар Бельскага дома культуры, музычны кіраўнік калектыву беларускай песні „Маланка".

— Гэта вельмі мяне ўзрадавала, — кажа Сяргей Лукашук. — А сатысфакцыя такая, што ацанілі маю працу для горада Бельска ў дзяляны культуры, бо 38 гадоў кіраваў домам культуры, быў першым арганізатарам дзён Бельска-Падляшскага ў 1976 годзе.

Медаль „Заслужаны для горада Бельска-Падляшскага" быў сёлета прызначаны ўпершыню. Узнагародзілі ім яшчэ чатыры асобы, у тым ліку праваслаўнага свяшчэнніка айца мітрата Лявонція Тафілюка, настаяцеля прыхода святога Міхаіла Архангела ў Бельску-Падляшскім да спартсменку Камілю Ліцьвінку.

**Давід ГАЙКО,**
**Радыё „РАЦЫЯ"**

Злева: Алег Гарбуз і Матэвуш Вітчук



# Польска-беларускія «Эмігранты»

**«Эмігранты» Славаміра Мрожка гэта ўжо класіка драматургіі. П'еса ўзнікла ў 1974 годзе. Праз пастаноўку ў беластоцкім драматычным тэатры ў рамках Сцэны мастацкіх ініцыятыў прыняла яна новыя значэнні, увёўшы яе ў сучасны кантэкст палітычнага эмігранта з Беларусі. Героі Мрожка пакінулі таталітарную краіну, дзе няма свабоды слова, краіну, дзе сустракаюцца палітычныя правакатары, а выказванне сваіх меркаванняў падвяргаецца пераследу. Пабудова адносін паміж двума персанажамі становіцца ўкладам у пытанне ўнутранай свабоды і сілы залежнасці ад прыгнёту.**

Спектакль узнікаў незвычайна.

— Кожны з нас мае стос п'ес, якія хацеў бы зрабіць. На самым версе майго стоса быў тэкст «Эмігрантаў», — кажа 26-гадовы Матэвуш Вітчук, мінулагодні выпускнік акцёрскага факультэта Дзяржаўнай вышэйшай тэатральнай школы ў Кракаве, вядомы гледачам Беластока м.інш. з ролі Хлопчыка ў пілотцы ў «Чарнобылі. Las minute" ці Ежы Нікара ў «Антыгоне» (рэжысёрам абедзвюх пастановак была кіраўнік Беластоцкага драмтэатра Агнешка Карыткоўская-Мазур).

Амаль у той жа час, калі ў Беластоку Матэвуш Вітчук выдумаў сабе, што варта ў рамках Сцэны акцёрскіх ініцыятыў паставіць «Эмігрантаў», у Мінску думкі аб тым, каб зайграць у гэтай драме кружылі ў галаве 44-гадовага Алега Гарбуза, акцёра Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, меўшага ўжо на сваім рахунку ролі Гамлета (драма Уільяма Шэкспіра) і Эрыка XIV (драма Аўгуста Стрындберга), а таксама фільмавыя ролі і ад сямі гадоў дубляж для фільмаў, выпушчаных «Белсатам».

Агнешка Карыткоўская-Мазур:

— Алег Гарбуз з'яўляецца вядучым беларускім акцёрам. Неверагодна, як за такі кароткі час Алег вывучыў польскую мову! Яго ўдзел у праекце мае два моцныя памеры: міжнародны і палітычны. Пошукі сучаснага разумення схаванага ў тэксце Мрожка знайшлі гэтым самым самае дадатковае дно: сённяшні эмігрант з Усходу з'яўляецца палітычным эмігрантам і гэты кантэкст становіцца дзякуючы гэтаму ясным і кранаючым.

Дадае:

— «Эмігранты» гэта спектакль пра тое, як крадуць нам свабоду і як мы становімся воляй-няволяй рабамі гэтай скрадзенай волі.

Алег Гарбуз: — Таму, што класіка заўсёды актуальная.

Абодва акцёры, рыхтуючыся да спектакля, выяўлялі таксама сябе, свае светы. Матэвуш Вітчук ездзіў у апошнія месяцы ў Мінск. Алег Гарбуз прыязджаў на Падляшша, дзе сустракаўся са сваім польскім сцэнічным партнёрам не толькі ў чатырох сценах тэатра.

— Прырода, касцёр і малінавы лікёр заўжды звязваюць, — сёння яны з гэтым згодныя.

Ужо сам пачатак спектакля, калі Алег Гарбуз рэкамендуецца гледачам як той, хто прыехаў з Мінска ў Беларусі, канец, калі Матэвуш Вітчук выклікае рэмаркі з авансцэны і, нарэшце, доля музыкі і жывы гук дзякуючы Пятру Ігнатовічу ўводзяць гледачоў у канвенцыю «тэатра ў тэатры». Загаловачнымі і таксама адзінымі героямі «Эмігрантаў» з'яўляюцца А.А. і Х.Х . Яны жывуць разам у цеснай мансардзе бліжэй невядомай краіны ў Заходняй Еўропе. Адчуваны інтэлектуал А.А. (Алег Гарбуз) вырашыў эміграваць па палітычных прычынах. Х.Х. (Матэвуш Вітчук), селянін і заадно рабочы, з'ехаў выключна для заробку. Наканавана ім быць ва ўласнай кампаніі, жывучы сярод бесперапынных сутычак і канфліктаў. Расчараваны А.А. паблажліва ставіцца да адоранага рабскім менталітэтам Х.Х. Заняты збіраннем грошай, спрабуе як найбольш выкарыстаць А.А. у матэрыяльным плане. А.А. называе Х.Х. ідэальным рабом, а сябе рыцарам апошняга шанцу. А.А. зразумеў, што жыве як малпа ў клетцы і пажадаў быць такой малпай, якая жыве на волі. Вырашыў напісаць кнігу пра чалавека ў чыстым выглядзе, тобок, пра раба, пра сябе. Сцвярджае, што ўсе мысляры Захаду нічога пра рабства не ведаюць, а ўсё, што напісалі да гэтага часу, далёкае ад ісціны. Толькі А.А. усведамляе, што гэта такое рабства. У клетцы ён не мог пісаць. Баяўся. Збег. Ён перастаў быць рабом, перастаў баяцца, але не змог ужо напісаць кнігі. Тады сустрэў Х.Х. і ўбачыў, што ён такі самы, як быў А.А. перад тым, як расплыўся ў свабодзе. Х.Х. з'яўляецца яго музай, натхненнем. Сама драма Мрожка закранае сур'ёзную праблему ў пасляваеннай Польшчы — разрыў паміж інтэлігенцыяй і працоўнымі. У беластоцкім спектаклі, якраз з-за ўдзелу Алега Гарбуза, у мацыйна падвышаных станах кажучага па-беларуску, першарадным становіцца шэраг іншых пытанняў: аб сэнсе ўласнай ідэнтычнасці не толькі сацыяльнай, але і нацыянальнай, разуменне патрыятызму, чым з'яўляецца Радзіма і што вырашае аб любові да яе, і што сапраўды аб'ядноўвае людзей.

Рэжысёрскую апеку над спектаклем прыняў Кшыштаф Рэкоўскі, які ў мінулым сезоне на сцэне Беластоцкага драмтэатра паставіў «Гляны на глянец» таксама з Матэвушам Вітчуком у адной з галоўных роляў (абодва выступы неўзабаве будуць паказаны на адным з тэатральных фестываляў у Кітаі). Незадоўга да прэм'еры ён сказаў:

— Гэта важна для мяне, каб тэкст драмы ладзіўся з тым, што нас акружае, каб гучаў па-сучаснаму. Мы, палякі, ужо забыліся трохі пра тое, што такое палітычная эміграцыя. З тэксту Мрожка выдалілі мы кантэкст моцна звязаны з камуністычнай рэальнасцю. Сёння польскі эмігрант — эмігрант у першую чаргу для заробку, і спажывецкае стаўленне замяніла стаўленне ідэалагічнай барацьбы. На жаль, блізка ад нас, за нашай усходняй мяжой усё ж існуюць прычыны для палітычнай эміграцыі. Мы спадзяемся, што тое, што глядач будзе бачыць, чуць са сцэны, будзе гучаць актуальна.

Алег Гарбуз:

— Тое, чаго я хацеў пры працы над спектаклем, і чаго мне не хапае ў маім тэатры ў Мінску, які зараз становіцца тэатрам музыкі, спеваў і танца, дзе — як кажа наш артдырэктар — камедыя павінна быць хлебам тэатра, гэта чагосьці для маёй душы, каб я мог у гэтым развівацца, адчуваць свайго партнёра, нешта важнае сказаць людзям. Гэтага я шукаю ў «Эмігрантах».

Пасля прэм'ернага, паўтарагадзіннага прадстаўлення, гледачы былі ўражаныя. Аліна Ваўранюк са Згуртавання «АБ-БА»:

— Я ўражана. Вельмі, вельмі. Тэкст аказваецца вельмі своечасовым, а канчатковы маналог Алега Гарбуза выклікаў ува мне дрыжыкі і закруцілася мне ў воку сляза.

Іншыя гледачы прэм'еры сцвярджалі:

— Актуальнасць спектакля заключаецца яшчэ і ў тым, што не ўсе людзі сёння свабодныя.

— Уражвае ігра акцёраў, а гэты беларускі акцёр так добра гаворыць па-польску.

— Гэты спектакль трагічны і смешны. Аказваецца, што эмігранты ніколі не ў сябе.

— Даўно мяне нішто так моцна не ўсхвалявала. Выдатная, бліскучая досціпам і мудрай іроніяй аповесць пра ўніверсум, то-бок, банальным чалавеку. Матэвуш Вітчук і цалкам выдатны Алег Гарбуз паказаліся знакаміта: з трэскам і... рыданнем, без інтэлектуальнай папсы.

Бліжэйшыя спектаклі: 6-8 чэрвеня.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Шляхам дзяцінства АНАТОЛЯ ШЫГАЛОВІЧА (2)

## Пагулянка

22 чэрвеня 1941 года, зразу пасля ўступлення немцаў у Савецкі Саюз і Крынкі, сям'я Анатоля Шыгаловіча была вымушана знайсці сабе новую хату. Вялікі, драўляны будынак па вуліцы Гмінай — пазней Войска Польскага — уласнаручна пастаўлены бацькам Анатоля, Міхаілам Шыгаловічам, згарэў. Нямецкі акупант з ходу ліквідаваў жыдоўскія прадпрыемствы, а хата Шыгаловічаў знаходзілася ў блізкім з імі суседстве. Доўга не чакаючы, акупанты пачалі арганізаваць у цэнтры горада жыдоўскае гета. Хрысціянскія пагарэльцы не атрымалі ніякай кампенсацыі за страчаныя будынкі, але ім дазволена было займаць памяшканні загнаных у гета жыдоў. Такім чынам Шыгаловічы апынуліся на вуліцы Гранічнай, у хаце жыдоў па прозвішчы Шымель. Шымелі таксама мелі некалькі гарбарскіх чапоў. Як успамінае спадар Анатоль, у Крынках было некалькі вялікіх гарбарняў, але найбольш вырастала маленькіх.

Шымелі паслухмяна выканалі выдадзены ім наказ. «Не ведаю, — гаворыць спадар Анатоль, — чаму яны паддаліся немцам, чаму не ўцякалі. Бачылі як гета будуюць, з плотам трохметровай вышыні. Усё роўна засталіся, быццам пагадзіліся са сваім лёсам». Дзесьці на восень гета было ўжо гатовае. Ад паўднёвай стараны пачыналася яно на рэчцы, на скрыжаванні вуліц Тарговай, Новы Завулак і Пагулянкі, далей ішло ў напрамку касцёла. Свой смяротны круг завяршала амаль на царкоўнай браме. Варот гета сцераглі паліцыянты, пераважна мясцовага, польскага паходжання. Яны, але таксама і немцы, былі падкуплены жыдамі. Бывала, ноччу на закрытую тэрыторыю ўязджалі фурманкі поўныя харчоў. Малы Анатоль таксама не зважаў на строгае «стой, спыніся». Перакідаў на другі бок плота ўсё, што было ў хаце: хлеб, хатнія макароны, яйкі, крупу.

Спадар Анатоль успамінае таксама жыдоўскага прадпрымальніка, які пабудаваў немалую гарбарню на Пагулянцы. Яшчэ захаваліся яе сцены. «Небарачок», як назваў яго мой суразмоўца, толькі год ёю пакарыстаўся, бо якраз вайна пачалася. Імя няшчаснага гарбара, на жаль, не засталося ў памяці Анатоля Шыгаловіча. На гэтым самым баку вуліцы, пару хатаў далей, можна пабачыць невялікую прыбудоўку, у якой перад вайной прадаваў харчовыя тавары жыд Ічко. За крамай пачыналіся ўжо хаты гаспадароў. Тут да вайны жылі гаспадарскія падлеткі, якіх вымушаны былі баяцца цэлыя Крынкі. Жыдоўская вуліца Гранічная ў асноўным сягала да муроў гарбарні Айна, якая пасля вайны стала дзяржаўнай. Айнавым называлі таксама маёнтак, размешчаны над сажалкай, непадалёк касцёла. Спадар Анатоль не ўпэўнены, ці гаворка тут пра аднаго чалавека ці пра больш людзей з гэтым прозвішчам.

За гарбарняй Айна пачыналася гаспадарская вуліца Гранічная. Гэтая вуліца і перад вайной так называлася. Яна вяла непасрэдна на другі бок мяжы, між іншым, у вёскі Служкі і Парэчча. Туды крынчане і жыхары падкрынскага Вострава ездзілі па сена. На вуліцы Гранічнай працавала кузня гаспадара Карвеля. Яе існаванне спынілася ў васьмідзесятых гадах XX стагоддзя. Па суседску з хрысціянамі жыў жыд Фінко. Яго вялікая мураванка і немалая гарбарня захаваліся ў добрым стане. Апошняя хата на вуліцы Гранічнай гэта двухпавярховы драўляны будынак жыда Котляра. Ён пазначаны як помнік даўніны. Зараз за Пагулянкай расцягваюцца Казіныя Горы, якія пачаткова звалі Мазуровымі. Там, паводле спадара Анатоля, жыды трымалі сваю жывёлу, пасвіць якую з ахвотай наймаліся навакольныя хлапчукі.

У недалёкім суседстве сядзібы Шыгаловічаў, на стыку вуліцы Гранічнай і Пагулянкі, стаіць хата, дзе ў час вайны хаваліся жыды. «У ёй жыў Дымітр — савецкі інжынер, — успамінае мой суразмоўца. — Пасяліўся ён тут у 1941 годзе. Добры быў спецыяліст, таму і немцы яго затрымалі». Дымітр апекаваўся машынамі ў гарбарнях, пераняты немцамі. У хаце трымаў дзвюх жыдовак, якія пасля вызвалення выехалі за граніцу. Дымітр памёр ад інфаркту. Гэта здарылася ў час адступлення немцаў. Ацалелыя жыдоўкі паслалі бацюшку Савічу грошы на пахаванне і памінанне свайго збаўцы. Спачыў ён на крынскіх, праваслаўных могілках. Пасля вайны саветы эксгумавалі целы сваіх салдат і невядома ці не вывезлі да сябе і цела Дымітра.


Драўляны дом жыда Котляра

Пасля вайны вуліца Гранічная стала адной з важнейшых, калі не найважнейшай у Крынках. Тут у 1948 годзе, у сценах вялікай гарбарні Айна, адкрылася галоўнае дзяржаўнае прадпрыемства мястэчка. Спадар Шыгаловіч сцвярджае, што загадзя ў міністэрства было адпраўлена пісьмо з просьбай дазволіць адкрыць гарбарню. Прасіцелі спасылаліся на вялікую гісторыю і буйныя традыцыі крынскага гарбарства. Айнаў прыбытак пачалі разбудоўваць. Найбуйнейшы росквіт гарбарні меў месца ў сямідзесятых гадах. Тады працавала ў ёй каля 240 чалавек, пераважна мясцовых. У Крынках работы хапала ўсім.

У 1958 годзе з вялікай гарбарняй звязаўся спадар Анатоль. Вярнуўшыся з вайсковай службы, абрабляў ён зямлю знясіленых хваробамі бацькоў. Тады гаспадары не былі застрахаваны, значыць, не прызначалі ім пенсій. «Страхавалі толькі працаўнікоў на дзяржаўнай рабоце, — тлумачыць спадар Анатоль. — Бацькоў трэба было па шпіталях вазіць, запазычыўся». У 1953 годзе Анатоль Шыгаловіч ажаніўся, паявіліся малыя дзеці. Ну і што рабіць, трэба было ісці ў гарбарню. Працаваў ад шостай раніцы да першай пасля поўдня. Праца ў гарбарні лічылася цяжкай, таму рабілі толькі сем гадзін. Дадаткова выплачвалі 15-працэнтны прывілей. «Тады, у асноўным, займаліся вырабам юхту, скуры на вайсковыя боты, — далей распавядае мой суразмоўца. — Тую скуру доўга трэба было апрацоўваць. Спачатку толькі далікатнай карою, потым штораз мацнейшымі сродкамі. Праз дзесяць чапоў яна пераходзіла. Скура — далікатная рэч, пакуль не вырабіць, трэба добра пагуляць з ёю».


Руіны колішняй гарбарні Айна

Крынская гарбарня была на той час надта добра ўстроена як у арганізацыйным, так і ў тэхнічным плане. «Зараз за вахцёркай прымалі доктар і санітарка, — успамінае спадар Анатоль. — Былі сталовыя (асобныя для жанчын і мужчын) і ўмывальні. Дадаткова зімою давалі гарачае малако ці гарбату, летам — газіраваную ваду і сок».

Сёння Анатоль Шыгаловіч стараецца не пераходзіць побач запушчаных будынкаў гарбарні. Замоцна баліць.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Фэст у Альхоўцы пад дажджом

Пасля поўдня ў нядзелю, 1 чэрвеня гэтага года, у Альхоўцы (Гайнаўскі павет) на пляцоўцы каля прыгожай святліцы сабралася групка людзей. У той дзень Гмінная ўправа і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы арганізавалі народны фэст. Стаяла халоднае і дажджлівае надвор'е. Не ўсе адважыліся выходзіць з дому!

Фэст пачаўся а гадзіне 17-й. Вядучая канцэрт прывітала прысутных радных: павятовага Міраслава Кульбацкага і гміннага Паўла Каліноўскага ды солтыску Альхоўкі Зіну Лукшу.

Першым на сцэне пад брызентавай пакрышкай выступіў мешаны калектыў „Нараўчанкі" з Нараўкі. Пад музыку акардэаніста Пятра Скепкі (спадар Пётр іхні музычны кіраўнік) праспяваў ён дзевяць беларускіх і польскіх песень. Двойчы сола спяваў Мікалай Варанецкі з Альхоўкі, адзін з членаў гурту „Нараўчанкі". Адна з прыгожых беларускіх песень была на яго словы.

Другім выканаўцам польскіх і беларускіх песень быў гурт "ТОМІ М" з Беластока. Ён раздаваў кружэлкі са сваімі песнямі.

Затым выступілі ў народных багата вышываных касцюмах „Жаваранкі" з Махнатага. Гэты калектыў з прыгожымі галасамі вядзе таксама музычны кіраўнік Пётр Скепка. Са сцэны паплылі песні, між іншым, „Люблю я Гайнаўшчыну нашу", „Звіняць, звіняць звончыкі", „Ой пайду на вёску" і „Сівы конь бяжыць" ды „Żurawie" на словы Язэпа Карпюка з Сямятыч.

У апошняй частцы канцэрта маладзёжны гурт „Сакрэт" з Міхалова прыгожа праспяваў „Смэрэку", „Ой ты Галя, Галя маладая", „Мне сарочку мама вышывала", „Ехаў Ясь на кані", „Белу каліну" і „Чырвону руту". Затым ён выконваў польскія лірычныя песні.

А дождж усё ішоў. Людзі хаваліся і пад парасонамі, і пад высокімі дрэвамі. Старэйшыя жанчыны пакрысе адыходзілі і адыходзілі з пляцоўкі дадому. Канцэрт закончыўся каля 20 гадзіны вечара.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Пенсіянерская сустрэча

17 мая ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе Польскі саюз пенсіянераў і інвалідаў арганізаваў сустрэчу, прысвечаную Дню маці. І хоць запрашэнні ў вясковыя гурткі былі разасланы раней і гмінай абяспечаны быў транспарт, прысутнасць аказалася мізэрнай. Удзельнічала ўсяго больш за сорак чалавек, што складае адну дзесятую частку ад агульнай колькасці членаў арганізацыі. Гэтага не бывала ў Чаромсе!... І каб не дысцыплінаванасць заўсёднікаў з Баброўкі Чаромхаўскай і Левашоў Мілейчыцкай гміны ў ліку дваццаці чалавек, зала пуставала б. Што паўплывала на такую прысутнасць, цяжка сказаць. Можна адно здагадвацца...

Са святочнымі пажаданнямі выступіў войт Юры Шыкула і старшыня пенсіянерскай арганізацыі Раман Туркевіч. Не было святочных прамоў, ні мастацкай часткі. Не заўважыў я сярод прысутных дырэктаркі ГАК Барбары Самасюк-Кузуб, якая штогод была суарганізатарам мерапрыемства. Да супольнага застолля з уласным кошыкам заселі нешматлікія аматары танцаў і спеваў. А важакамі ў гэтай справе з'явіліся, як заўжды, пенсіянеры з Баброўкі. Слава ім за гэта!

Мае спадзяванні на «большы» тэкст са здымкамі аказаліся асечкай. Пакідаў я пасля паўгадзіннай прысутнасці нешматлікую кампанію, якая засядала пры сціплым пачастунку і гуках небадзёрай дыска-полавай музыкі.

**Уладзімір СІДАРУК**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


# Я хачу мець брата!

«Дзень Мамы і таты, гэта самы прыгожы дзень у годзе», — такімі словамі прывіталі сабраных нашыя акцёры з трэцяга класа ПШ у час школьнай цырымоніі ў Міхалове. Свята рыхтавалі пад кірункам настаўніц А. Багдановіч, В. Баршчэўскай, Э. Грыко і Э. Гайдук.

Вучні выступілі з вершамі, песнямі і спектаклямі „Дзве Даротકі" і „Цалінaчка". Усе словы былі накіраваны да любімых матуль і таткаў, якія з хваляваннем прыглядаліся выступленням сваіх малеч. Вучні беларускамоўных класаў праспявалі песню „Кветка маме". Яны падрыхтавалі прыгожыя кветкі і віншавальныя паштоўкі з краскамі. Адрыян Данілюк, Міша Трусевіч, Наталька Васько і Вікторыя Гобец выступілі ў інсцэнізацыі да верша Віктара Шведа пад загалоўкам „Я хачу мець брата".




У гэты асаблівы дзень наш дырэктар Ян Лукша ўзнагародзіў бацькоў вучняў трэціх класаў, якія найбольш актыўна ўдзельнічалі ў жыцці школы. Яны атрымалі граматы „Сябар школы"!

У канцы вучні падарылі сваім бацькам зробленыя самастойна падарункі і запрасілі на салодкі пачастунак. Мы дзякуем усім бацькам, якія памаглі ў арганізацыі гэтай цудоўнай урачыстасці.

**Вучні і настаўніца Эмілія Грыко са школы ў Міхалове**

*Міхал ТРУСЕВІЧ, Міхалова*

## Коцік

*У мяне ў хаце кот,*
*Заву яго Псот.*
*Як усе каты,*
*Любіць уваходзіць на платы.*
*Клубок воўны гоніць для гульні.*
*Усё яго вельмі цікавіць.*
*І як усе каты,*
*Любіць ён туліцца.*


Малюнак Светланы Канькoвай-Дударэнка

# Салавейка

*(азербайджанская казка)*

Адзін купец злавіў у лесе салаўя і прынёс яго дахаты. Купец заказаў прыгожую клетку з золата, прыаздобіў яе смарагдамі і дыяментамі, і пасадзіў салаўя ў клетку. У купца быў сад, у якім расло многа прыгожых кветак і дрэў. Пасярэдзіне садка знаходзіўся басейн з каштоўнага мармуру і фантан. Купец загадаў павесіць клетку ў цяньку ля басейна і кожны вечар прыходзіў паслухаць салаўіных песень.

А салавейка ўвесь час спяваў сумныя песні.

Купец знайшоў чалавека, які разумеў мову птушак. Ён хацеў даведацца, чаму салавей такі сумны.

— Салавейка пяе сумныя песні, бо ён адчайна сумуе па Бацькаўшчыне, па сваім гняздзечку, па свабодзе.

Купец адчыніў клетку і выпусціў салаўя на волю. А сам, разам з чалавекам, які ведаў мову птушак, асядлалі коней і пагналіся следам за птушкай. Паляцеў салавей над гарамі і далінамі, у рэчках купаўся. Аж прыляцеў у лес, сеў на дрэва і ўсклікнуў ад захаплення:

— Ах, Радзіма мая дарагая!

І завёў вясёлую песню. Паслухаў купец і кажа:

— Я трымаў яго сярод руж у залатой клетцы, карміў, паіў — а яму вось што! Больш даспадобы звычайны лес.

А чалавек, які ведаў мову птушак, кажа:

— Не здзіўляйся, купец. Кожнаму дарагая Бацькаўшчына і родная хатка. Салавейка тут на свабодзе. А свабода — даражэйшая за ўсё на свеце!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

*Азербайджан — краіна ва ўсходняй частцы Закаўказзя, над Каспійскім морам. Яго сталіца — Баку. Горад пахне нафтай і саляркай таму, што тут знаходзяцца багатыя залежы „чорнага золата". Азербайджанцы ад стагоддзяў праяўляюць талент у гандлі. Тут таксама вырошчваюць самыя салодкія кавуны ў свеце.*

*Іаанна НІКІЦЮК, клас чацвёрты „а", ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім*

## Вясна

*Як штогод прыйшла вясна,*
*Вельмі прыгожая пара,*
*Птушкі гнёзды ўюць,*
*Кветкі разнаколерна цвітуць.*
*Сонейка свеціць штодня ярчэй,*
*Дрэвы лісточкі раскідаюць хутчэй,*
*Усе спяшаць,каб паспець да зімы –*
*Гэтай строгай і марознай пары.*

*Вікторыя ГОБЕЦ, Міхалова*
*Наталля ВАСЬКО, Кабыльнянка*

## Дзіцячыя гады

*Бацькі паўтараюць пастаянна,*
*Што дзіцячыя гады хвіліна малая.*
*Але я хачу ўжо ў шпільках хадзіць,*
*Прычасаць валасы і ўвесь час моднай быць!*
*Але, пакуль,*
*Хай мама мяне даглядае,*
*А бацька на мае капрызы зарабляе...*

*Адрыян ДАНІЛЮК, Міхалова*

## Школа

*У школе, як у школе.*
*Вучні вучацца.*
*Для сваіх бацькоў,*
*Для сябе.*
*Хочуць мець добрыя адзнакі.*
*Тады са школы*
*Дастануць ва ўзнагароду*
*Акардэоны.*

# Шукаем скарбаў!

Набліжаецца любімая „пара года” — канікулы. Шмат хто з вас мае ўжо планы, як правесці вольны ад навукі час. Самай папулярнай марай на Падляшшы далей застаецца паездка ў экзатычныя краіны. Але ці ўсе любяць адпачываць пад пальмай?

У апошні час модны адпачынак „на веласіпедзе”. Гэтая форма адпачынку патрабуе нашай ангажаванасці і падрыхтоўкі. Зразумела, спачатку знаёмімся з найбліжэйшым наваколлем. Там, здаецца, усё ясна. Аднак пакуль збярэмся ў дарогу, варта падрыхтаваць карту, дзе пазначаны не толькі дарогі, але і назвы ўрочышчаў. Апошняя справа можа ўзбагаціць веды пра нашае мінулае і нас саміх. Пра ўрочышчы і апусцелыя месцы звычайна нічога не ведаем. Час ад часу іх назвы з'яўляюцца ў легендах, казках, песнях. Як наблізіцца да гэтай таемнай і, здавалася б, недаступнай, сферы. Вельмі проста! Хопіць спыніцца ў вёсцы, спытаць пра гэта ў бабуль і дзядуляў, якія выседжваюць на лавачках. Яны не толькі ахвотна раскажуць вам пра краязнаўчыя цікавіны. Многія людзі хочуць паўспамінаць сваё жыццё. Такі „падарак” нельга ўспрымаць абыякава. У аповедах пачутых на лавачках ёсць частка нашай асабістай гісторыі. Нешта падобнае магло здарыцца з нашымі дзядулямі ці бацькамі. Варта іх папытаць пасля вяртання ў хату. У час вандровак, што неаднойчы мы рабілі на Сустрэчах „Зоркі”, варта запісаць старыя песні. Такім чынам мы знайшлі вядомую і папулярную сёння сярод моладзі песню „Ой пайду я на той ганак”. Песню праспявала нам Марыя Нікіцюк з вёскі Мокрае. Як аказалася, яна — родная бабуля мастачкі Маргарыты Дмітрук. Як не цікава, песню ведалі толькі ў гэтай адной вёсцы. У маёй памяці жыве хатка спадарыні Марыі, упрыгожаная каляровымі макаткамі і ручнікамі. Бабуліне рукадзелле можна адшукаць у карцінах спадарыні Маргарыты.

Як відаць, вельмі часта каштоўныя рэчы „жывуць” побач сябе. І блізка нашай хаты. Варта пра гэта памятаць у час нашай веласіпеднай вандроўкі...

**Зорка**



## Вершы Віктара Шведа

### Цёця, разяў свой рот

Цёця, разяў свой рот,
Просіць малая дзяўчынка
— Які ж там убачыла мёд? —
Спытала яе праз хвілінку.

— Мама зрабіла падлік,
Калі мы прыехала ў госці:
Маеш ты доўгі язык
І толькі табе пазайздросціць.

### Чаму смерць худая?

Сваёй матульку пытае
Дагадлівы надта Косцік:
— Чаму смерць такая худая?
Адны ў яе толькі косці.

— Жывецца ёй надта слаба,
Яе незавідная доля.
Таму што чужы ёй хабар,
Яго не бярэ смерць ніколі.

### У лекара зубнога

У гарадской прыёмнай
Лекара зубнога,
З цікавасцю агромнай
Чакае хлопцаў многа.

— Хто вырваць зубок хоча? —
Пытае хлопцаў лекар.
— Я мушу быць ахвочы,
Яны чуць хочуць здзекі.

# Юныя фільмоўцы з Крынак у клубе АБ-БА



30 траўня ўдзельнікі фільмавых майстар-класаў «Відэа Тоеснасць», арганізаваных Фондам «Віла Сакратэс», пры фінансавай падтрымцы Фонду «Orange», прэзентацыю сваіх дасягненняў. Адбылася яна ў беластоцкім «Склепе з культурай» аб'яднання АБ-БА. Крынскія маладыя фільмоўцы падзяліліся з сабранымі плёнам сваёй некалькімесячнай дзейнасці. Перад імі была пастаўлена мэта — адказ на пытанне пра тоеснасць. У Крынках адказ на пытанне «кім я ёсць» знайсці было вельмі складана. Так прынамсі сцвярджаюць удзельнікі майстар-класаў. На іх думку, гэта вынік спалучэння дзвюх традыцый: польскай і беларускай. Немалаважнымі справамі маладым крынчанам былі свабода і выбар пераказу.

Паказ іх фільма ў Крынках адбудзецца 14 чэрвеня 2014 г. у Гмінным цэнтры культуры і спорту, па вуліцы Пілсудскага, 5.

**Оля КІШКЕЛЬ**
**і Матэвуш АНІКЕЙ**
Пераклад Іаанны Чабан
**Фота Олі КІШКЕЛЬ**

## Увага, конкурс!!! (№ 23-14)

### Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 7 чэрвеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

**Гайда, дзеці, увечар**
**Дзіва паглядзім:**
**Поўны хлеў авечак,**
**А казёл — адзін.**
(З.... і м....)

**2.**

**Спусціліся ў лясок**
**І селі ў верасок**
**Улетку зоркі-znічкі,**
**А іх завуць...**
(Л......)

**Адказ на загадкі № 20-14: хмары, вясёлка.**
**Узнагароды, каляровы алоўкі, выйгралі Віялета Смолюк і Аляксандра Куптэль з Арэшкава. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 23

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 19:

Асцэт, гук, пасынак, салат, мальва, здача, імя, чарапаха. Проза, суп, мара, касач, салата, стыль, навіна, атам, ток, ява.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Мальвіна Маркевіч, Марыюш Асташэўскі, Дамініка Календа** з Бельска-Падляшскага, **Караліна Шчасновіч, Міхал Паніквіцкі** з Бабікаў, **Марта Цыванюк** з ПШ № 4 у Беластоку, **Катажына Вішнеўская, Алівія Кузьміцкая** з Шудзялава. Віншуем!



Лідзія МАЛІНОЎСКАЯ

## Хвалі вечнасці

*Пад родным небам жыць лягчэй,*
*дзе гучыць матуліна калыханка.*
*Тут бурляць крыніцы ў полі*
*і трапеча ручнік ільняны-вышыванка.*
*Найкол дарагія сэрцу краявіды,*
*усё што з дзяцінства я люблю.*
*Сады і кветкі раскітаюць,*
*пайсюль упрыгожваюць зямлю.*
*Хлебныя нівы залацеюць,*
*хваля за хваляй у вечнасць бяжыць.*
*Шэпча калоссе словы кахання:*
*у родным краі радасна жыць.*

## Было ў Дубяжыне

У вёсцы Дубяжын каля Бельска 28 мая 2014 г., дзень да свята Узнясення Гасподняга прайшла працэсія, якая ад гадоў з'яўляецца вясковай традыцыяй. Пасля службы ў падбеленскай царкве ўсе жыхары Дубяжына пайшлі на парафіяльныя могілкі, дзе адбылася малітва пры магілах псаломшчыкаў Іосіфа і Аляксандра ды дзяка Рамана за ўсіх родных, што ад нас адышлі. Нашы святары — айцы Міраслаў Чурак і Тамаш Касінскі пасвяцілі ўсе магілы нашых родных. Пасля мерапрыемства на цвінтары прайшлі мы ўсе, пры спеве царкоўнага хору, пад крыж, які знаходзіцца на пачатку сяла, дзе быў прыгатаўлены стол, засланы льняным абрусам, на якім знаходзілася ікона, свяча-грамнічка, хлеб і соль. Тут нашы духоўныя і ўсе жыхары Дубяжына маліліся за здароўе жыхароў і іх родных. Айцы Міраслаў і Тамаш блаславілі нас усіх на шчасце і здароўе. Потым мы прайшлі да другога крыжа. А на канец падаліся да крыжа, які пяць гадоў назад пастаўлены жыхарамі ў абароне сваёй зямлі, на якой улады хацелі зрабіць звалку смецця. Гэты крыж, дзесяціметровай вышыні, стаіць сярод багатай, чароўнай прыроды, сярод урадлівых ніў, лясоў, садоў і кветцістых лугоў, пад васільковым небам. Там таксама прагучала малітва за ўраджай навакольных ніў. У малітве акампаніравалі нам таксама галасістыя птушкі, якія адчуваюць сябе шчаслівымі ў натуральнасці свету. Паблізу гэтага поля знаходзіцца крыніца вельмі добрай вады, якая не патрабуе ачысткі. Ёсць тут дзве студні, пампуючыя ваду з глыбіні 70 метраў — служаць яны трыццаці тром вёскам у трох гмінах — Бельскай, Боцькаўскай і Арлянскай. «Нашы дзяды і прадзеды паставілі крыжы, якія мелі іх ахоўваць ад няшчасця» — кажуць дубяжынцы. Так і зрабілі мы, каб ад нас адчапіліся і дазволілі нам працаваць на роднай зямлі...

Пасля ў прыгожай абшырнай палатцы, якую паставілі людзі ля крыжа, чакаў нас усіх абед. Гаспадыні вёскі Дубяжын, а менавіта Крыстына Дуб і Ірына Супрунюк ды іншыя жанчыны падрыхтавалі для ўсіх прысутных смакавіты пачастунак, які таксама пачалі малітвай. Пасля абеду пачаліся супольныя спевы дубяжынскіх старадаўніх песень «Там на грэблі», «Арэшку-арэшку» і многіх іншых. Сапраўды, было відаць, што людзі кахаюць сваю зямлю — гэта ўсіх нас айчына, за якую можна ваяваць. Навакольная прырода, зеленню абліта, такая чароўная, што ад яе багацця не хацелася вяртацца дахаты. Хацелася астацца тут, шыбаваць у вышыні, з жаваранкамі...

**Лідзія МАЛІНОЎСКАЯ**



Кася СЯНКЕВІЧ (з кветкамі) з бацькамі і сястрой

# Кася Сянкевіч малюе і піша

Кацярына Сянкевіч — самы малады актыўны сябра Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» — нарадзілася ў 1991 годзе, сто гадоў пасля нараджэння аднаго з самых першых сяброў (Антона Васілеўскага — Антося з Лепля, 1891-1984) гэтай літаратурнай групы, якая больш за 55 гадоў бесперапынна дзейнічае ў Польшчы. Яна апублікавала кнігу вершаў «Дачка ружы» якраз перад экзаменамі на атэстат сталасці ў Мастацкім ліцэі імя Артура Гротгера ў Супраслі, у дзень абароны дыплома па мастацкай тканіне. Цяпер яна з'яўляецца студэнткай жывапісу на Мастацкім факультэце Універсітэта Марыі Складоўскай-Кюры у Любліне. Дэбютавала ў «Ніве» як удзельніца Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют», яшчэ як вучаніца гімназіі ў Нарве і ліцэістка. Паяўлялася на сустрэчах ціхая, засяроджаная, сумная, найчасцей з бацькам, які прывозіў яе з хутара Граматнае ў Нараўскай гміне — зялёнага пасялення над Нараўкай, на памежжы трох гмін — Нараўскай, Нараўчанскай і Міхалоўскай. Такое а не іншае месца выхавала гэтую маладую мастачку, якая свае вобразы і думкі ўбірае ў словы і колер.



— Даўней мае вершы былі прасякнуты смуткам, — прызналася студэнтка жывапісу на сустрэчы ў бібліятэцы ў Нарве, на якую прыйшлі таксама яе настаўнікі з Нарваўскай школы, між іншым беларускай мовы Ніна Абрамюк і польскай мовы ды апякунка ў першых мастацкіх кроках Ева Алімоўская. На сустрэчах (у Нарве і Трасцянцы) Кацярына прадставіла публіцы свае карціны, чытала вершы з кнігі ды новыя творы.

— Цяпер я гляджу ў будучыню і буду аб ёй пісаць. Можа, аб рэчах, якіх няма, але яны збудуцца. Яны з'явяцца! І не толькі ў маіх вершах або карцінах... Мае карціны можна падзяліць на дзве катэгорыі: гіпнатычныя тэрапеўтычныя ўявы, якія цяжка адчытваюцца атрымальніку, ды біялагічныя абстракцыі. Гэты другі тып узнікае са шчырага, некантраляванага назірання эмацыйнага стану, які запісаны галоўным чынам колерам і фактурамі, падмацаваны мастацкімі ведамі. Першы тып, аўтапартрэты ў пейзажы: „марскія" і „гарадскія", сягаюць інспірацыямі да кнігі Джозефа Мэрфі „Магутнасць вашай падсвядомасці", якая захапляла мяне ўжо ад дзяцінства. Гэта слаі сонных трызненняў, што накладваюцца адно на адно, падобна як слаі фарбы. Я даходзіла да іх доўга, часта адмаўляючыся ад дакладнага праектавання, папярэджваючага працэс малявання. Адбывалася так, што аж да „ўгледжання" ўявы, толькі з крыху невялікім спазненнем рэалізацыі яе на палатне ў параўнанні да ўзнікнення яе ў маёй уяве; а часам было і наадварот. Выкарыстоўваю выпадковасць, прабуючы яе кантраляваць. Побач плям хаваючага колеру кладу ліючыеся, сплываючыя глазуры, часам накладваю таўсцейшы слой фарбы толькі для таго, каб яе здрапаць шпатэлем і маніпуляваць застаўшыміся ад яе „слядамі". Жывапіс, падобна як паэзія, у маім выпадку з'яўляецца „лаканічным, моцна эмацыйна памечаным і кароткім". Адчуваючы падскурна, што эмоцыі гэта колеры і рытмы ды гукі, трансланую вібрацыю душы на мову жывапісу. Калі сюррэалістычныя аўтапартрэты ў пейзажы з'яўляюцца тэрапеўтычнымі ўявамі, дык прадстаўляюць яны невыпадковыя месцы. Я мора называю бязмежнасцю і чыстай дарогай, на якой няма перашкод, а ёсць толькі гарызонт і будучыня — карціны не паказваюць яго берагу. Мінулае не існуе, паколькі плаваючы па моры ці акіяне лёгка губляем напрамак, а кожны крок наперад ставіць нас у той самай адлегласці ад гарызонту. Жанчына-Дрэва, шпацыруючая па мікрараёне, можа быць метафарай адзіноты, якая заглядвае ў цёплыя вокны, каб забавіць жыхароў сваімі срэбнымі слязамі. Гэтыя карціны — як заплюшчванне вачэй, каб убачыць мары і прыняць іх за рэальныя, прымаючы як прыняць за належнае тое, што вера стварае цуды — незалежна ад таго, у што мы верым — у паразу ці поспех.

Кацярына Сянкевіч друкавала свае творы ў літаратурна-крытычным штогодніку „Тэрмапілы", ды „Верасні" і „Дзеяслове" ў Мінску, прымала ўдзел у літаратурна-крытычна-транслятарскіх семінарах „Бязмежжа". Сёлета выйдзе ў Мінску яе другі зборнік лірыкі „Бачу рэха святла". Рыхтуе таксама ілюстрацыі да кніжкі вершаў для дзяцей „Вяснушкі" Міры Лукшы.

**(лук)**

* * *

гледзячы ў люстра ў ванне
у пустым пакоі ў сне
пішучы вершы дзякуючы табе
я асвоіла мастацтва
плачу крывёй

### цукар

мая ўсмешка больш
не хлусня
таму што сёння
жоўтая
смерць мая

памірае ўва мне цукар
цукар майго смутку

не выраблены
з цукру

* * *

недакладныя рыфмы
падзеяў
анафарычна паўтараюцца

* * *

стрывожана
маўчаннем
хай мяне!
Аднак не схаваюся
пад дыван ценю
магчыма
буду шкадаваць
прасляжуся

* * *

няма гадзін позніх
няма і паранных
ёсць ледзь секунды
пераплеценыя паміж пальцамі птушак

* * *

мяжа слізкая між містыкай і магіяй
— я не баюся
добра ведаю гадзіннік
пакутуючай душы
і гарачую магму пачуццяў
аклейваючую мозг
сухі ліпучы смак пакуты
я не ведаю,
адкуль
гэтая ідэя
што цярпенне падзяляецца пароўну

аскетычная пакута
на шчаслівы
апошні час
боль — білет
на прыём у неба

# Карцінкі з глыбінкі (3)


Адна з вуліц Вулькі-Нурэцкай

Ад чыгуначнага прыпынку Баравікі да Вулькі-Нурэцкай каля пяці кіламетраў; і ўсё не надта старым лесам. З захаду лес прылягае да самой вёскі. З поўдня і з поўначы таксама шмат лесу, толькі ад усходу быццам акно на свет. Быццам Вулька-Нурэцкая заглядзелася на ўсход. Гэта ў ландшафтным плане, але доўгі час вёска глядзела на ўсход і грамадска-палітычным зрокам.

„Газета Беластоцкая” ў палове 1950-х гадоў пісала: „**Gdybyście kogokolwiek z mieszkańców Wólki Nurzeckiej zapytali, co ciekawego zaszło w ich wsi na początku 1954 roku, usłyszelibyśmy o powstaniu spółdzielni produkcyjnej. Tych dni spółdzielcy długo nie zapomną. Nowe bowiem rodziło się tu w trudzie i ostrej walce klasowej. Kułacy pisali podstępne skargi na organizatorów spółdzielni, straszyli także i pozostałych chłopów, którzy podpisali statut spółdzielczy. Napadli też na głównego organizatora zespołowej gospodarki i poważnie go pobili. Wrzało wtedy we wsi. Nawet w organizacji partyjnej, liczącej ponad 20 członków, powstały dwa obozy. Część postanowiła zerwać ze starym stylem gospodarowania. Pozostali towarzysze ulegali jednak wpływom antyspółdzielczym**”.

Пяць гадоў пазней пісала пра Вульку-Нурэцкую „Ніва”, што „на сталах спулдзельцаў з'явіўся белы пшанічны хлеб, не толькі па святах”. І далей: „Спулдзельня безупынна развіваецца. Аднаасобніцкія суседзі бачаць гэта. Параўноўваюць з уласнымі метадамі гаспадарання, а з гэтага параўнання ясна вынікае, што ўжо нельга пужаць дзяцей, калі плачуць, што іх аддадуць „у калгас”, бо там лепш. Каб дакладна апісаць наша жыццё, дык трэба напісаць цэлы раман. Найлепш самому ўсё пабачыць. Заглянуць да шпіхераў, хлявоў і пунь паасобных спулдзельцаў, пераканацца ў тым, што ямо і як адзяваемся. Ахвотных і цікавых прывітаем заўсёды з вялікай ахвотай”.

Мінула яшчэ дваццаць гадоў і калектывізацыйны энтузіязм стаў пераходзіць у памяркоўнасць. Каля 1980 года Мікола Гайдук пісаў у сваім ніўскім „Краязнаўчым слоўніку”: „Частка воленцаў аб'ядналася ў сельскагаспадарчы кааператыў, іх жыццё і праца грунтоўна перамяніліся, а сёння гэтая калектыўная гаспадарка належыць да перадавых на Беласточчыне. Індывідуальныя гаспадары таксама не паддаюцца — гэта выдатныя гаспадары, дасканалыя вытворцы збожжа, мяса, малака, самыя лепшыя прадаўжальнікі працоўнай, найменш чатырохсотгадовай, традыцыі Волькі”.

А пра тое сівое мінулае Вулькі-Нурэцкай Мікола Гайдук пісаў так: „Першыя вядомыя нам упамінанні пра яе ў пісьмовых дакументах адносяцца да 1592 года. Ужо сама назва паказвае, што паўстала яна ва ўладаннях маёнтка Нурэц, што знаходзіцца ў пяці кіламетрах на захад. Са слова „Волька” можна меркаваць, што была заснавана на тэрыторыі незаселенай або з рэдкім насельніцтвам. Уладальнік, каб заахвоціць людзей да пасялення і загаспадарання на новым месцы, звальняў іх на нейкі час ад усіх або значнай колькасці данінаў і павіннасцей — „даваў волю”. Варта дадаць, што тут знаходзіўся „падворак”, ці інакш кажучы фальварак, які першапачаткова належаў нурэцкаму двару і які мог быць некалі зародкам усяго паселішча”.

І яшчэ адна карцінка з „Нівы” ад прыблізна 1960 года: „Сонечны веснавы дзень выклікаў з хат жыхароў Волькі-Нурэцкай. На лавачках, амаль пры кожнай хаце, сядзелі старэйшыя людзі, і хоць большасць з іх была апранута яшчэ ў зімовыя кажухі, аднак тут адчувалася вясна. Увагу маю звярнуў шматгалосы гоман і смех, што даносіўся з прышкольнага пляцу; моладзь гуляла ў валейбол”.

Завітаў я сёлета ў Вульку-Нурэцкую таксама ў сонечны веснавы дзень. Цяпер вулічныя лавачкі перад панадворкамі ў Вульцы-Нурэцкай — рарытэтныя, ды і тыя пустыя. Каля разгалінавання вуліц сачыў за мною мужчына на від каля пяцідзесяцігадовы, на від бабыль, на від пад прыстойным хмяльком. Даволі колка пацікавіўся мэтай майго там прабывання, аднак зведаўшы, што я аглядаю вёску, а пасля думаю кіравацца ў бок Тымянкі, ветліва праінфармаваў мяне, што ў Тымянку будзе аўтобус роўна апоўдні. Ацаніў я, што часу хопіць мне, каб паглянуць на калгасны нерухомасны комплекс ды яшчэ ўспець на той аўтобус.

Прышкольны пляц з'яўляецца зараз, так як і ўся па сутнасці вёска, прасторай, аддаяай ва ўладанне цішыні. Сам будынак колішняй школы ўсебакова шэры, сям-там адпадаюць ад яго элементы даўняй абліцоўкі. Дах з шыферу, які па-польску называецца этэрнітам, а гэтая назва выводзіцца ад лацінскага слова *aeternus* — вечны. Можа ён і вечны, але ў нядоўгай часавай перспектыве — ужо пачынае расці на ім мох...


Школьны будынак у Вульцы-Нурэцкай

Пра зруйнаваны непрацяглым часам вялікі нерухомасны комплекс былога сельскагаспадарчага кааператыва ў Вульцы-Нурэцкай пісаў я ўжо шмат гадоў таму, што там можна было б здымаць панарамныя фільмы пра маштабную абарону Сталінграда або такі ж штурм Берліна. І можна ўжо тымі будынкамі былога калгаса пужаць дзяцей, калі плачуць; калі б тыя дзеці ў Вульцы-Нурэцкай былі... Праўда, ёсць там нейкі зрух, бо на месцы адной з колішніх калгасных брам паявілася шыльдачка, што там прыватная тэрыторыя і ўступ туды забараняецца. Да таго ж тэрыторыя тая небяспечная як міннае поле, толькі там у якасці мін падсцерагаюць заросля буйным сухатраўем люкі глыбокіх у некалькі метраў сіласных ям, з якіх не вырвецца на шырокую волю ні найбольш адчайны крык, ні нават мабільнікавы кліч за паратункам...

Таму вось я і завярнуўся ад гэтага красаўніднага ландшафтнага дакумента таго новага, што „**rodziło się tu w trudzie i ostrej walce klasowej**”. Дык ці ж магло быць інакш, калі ўжо з самога пачатку, шэсцьдзесят гадоў таму, тое новае было абцяжаранае першародным грахом, які так і не дазволіў затрымацца ў абяцаным раю: „**Na pole spółdzielni została przywieziona nowoczesna koparczka, lecz przez cały czas wykopków POM nie dał do niej ciągnika. Jak stwierdza sekretarz KP w Siemiatyczach, tow. Bielawski, POM-owskie ciągniki w tym czasie przewoziły prywatny dom z Siemiatycz pod Warszawę**”.

Вось і завярнуўся я адтуль у напрамку цяперашняга вясковага цэнтра, дзе вясковая святліца з пажарным дэпо, крама ды аўтобусны прыпынак. Менавіта заспяшаў я ў напрамку таго апошняга. Але неяк так запар з маімі нагамі заспяшалі і стрэлкі майго гадзінніка, выводзячы ўперад адпраўленне аўтобуса на роўныя дзесяць мінут да майго прыходу на прыпынак; па аўтобусе ўжо і след прастыў...

Зрабіўшы круг па тамашніх вуліцах вярнуўся я зноў на згаданае іх разгалінаванне, дзе стаяў мужчына на від каля пяцідзесяцігадовы, на від бабыль. Адно гэты быў ужо пад такім хмяльком, калі асабістая гравітацыя становіцца адносна эгалітарнай. Таму, калі рушыў ён вельмі гасцінна суправаджаць мяне, яна вадзіла яго то направа, то налева. У адказ на маю цікавасць да мясцовых установаў паўтараў ён адно, што ў мясцовым дэпо быў калісь бар, з якім, мабыць, звязвалі яго захаваныя ў ягонай памяці найбольш светлыя ўспаміны. Нягледзячы на гравітацыйныя замінкі, у фортачку перад крамай трапіў ён даволі пасяхова.

Крама ў Вульцы-Нурэцкай прапануе пакупніку толькі найбольш неабходны тавар, у тым ліку і своеасаблівы антураж для мясцовага грамадскага актыву. Актыў той, аднак, не збіраецца ні ў краме, ні за адмысловым сталом за ёю, як гэта бывае ў Дашах ці Рагачах. Тут вясковы сеймік разлягаецца на зялёнай траўцы, што ў садочку насупраць гандлёвай установы, адкуль добра відаць асноўныя падзеі тамашняга жыцця.

Ды і выгляд прадавачкі з'яўляецца своеасаблівым дакументам тамашняга мінулага. Паказвае ён, што пралягаючая непадалёку дзяржаўная мяжа яшчэ адносна свежая, што семдзесят гадоў, якія праміналі з часу яе ўстанаўлення, не парвалі сямейных сувязей, што калісь завязаліся на былой Брэстчыне. Тыя сваякі наведваюцца ўзаемна, гасцююць у сябе, а пры нагодзе карыстаюцца і рознымі паслугамі з другога боку мяжы. У тым ліку і стаматалагічнымі, заводзячы сабе модную ў СССР пазалоту на зубах; у воленскай прадавачкі залатая ўсмешка...

Мой чычэронэ, што прывёў мяне ў краму, выходзіць з яе за мною. Магчыма, што хацеў ён нейкі грош у мяне „пазычыць”, аднак, магчыма, што збіла яго з панталыку мая недзяржаўная, тутэйшая гаворка. У разгубленасці пацікавіўся ён толькі ці я не з нейкай прыродаахоўнай арганізацыі. А я, каб канчаткова вызваліцца ад яго, кідаю, што спяшаю ў Тымянку на аўтобус. Тыднем пазней, калі я праязджаў праз тую ж Вульку-Нурэцкую на аўтобусе, мой „праваднік” спыніў машыну і прасіў шафёра пазычыць яму два злоты; шафёр „паабяцаў”, што пазычыць „заўтра”...

Крышку я нават і пашкадаваў, што не махнуў рукою на аўтобус, на які мне было спешна, і не прысвяціў дзесяці-дваццаці хвілін на гутарку з гэтым чалавекам, не прысвяціў „двух” злотаў на той сродак, які мог бы вызваліць у яго нейкі від шчырасці; магчыма, што можна было ў яго што цікавае даведацца пра сучасныя тамашнія будні, даведацца, **co ciekawego zaszło w ich wsi na początku 2014 roku**. Але пабаяўся я рызыкі, што мой пагэнцыйны расказчык зноў паўтараў бы адно, што ў дэпо быў калісь бар. А мо магчымае піва расцерушыла б хісткую гравітацыю не толькі ягоных ног, але і языка да цалкавітай непрыдатнасці...

Брусельскія чыны ўводзяць у наша жыццё шмат рэгуляцый, якія б мелі лепш тое жыццё зладзіць. Адным з прыкладаў — абавязак збірання ў адмысловыя кантэйнеры ўсялякай непатрэбшчыны, якая б магла замінаць прыродзе. Але ж цывілізацыйныя змены нашага часу спараджаюць засілле не толькі страціўшых прыдатнасць пластмасавых вырабаў. Размашыстыя цывілізацыйныя змены спараджаюць і тое, што і людзі паволі становяцца непатрэбнымі, у тым ліку і пакінутыя на вёсцы вартавыя бацькоўскіх палеткаў. І пытанне, куды іх дзець, мабыць, не займае думак высокіх нашых чыноў...

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Сягаў паэтычным словам увысь



## (памяці Генадзя Бураўкіна)

### Малітва

*Мы здалёку ўбачылі свабоду*
*І яшчэ не вырваліся з пут...*
*Божа,*
*Не дабаў маіму народу*
*Пошасці,*
*Няпраўды*
*І пакут.*
*У чужым нялюдскім землятрусе*
*Хіба ў нечым мелі мы віну?..*
*Божа,*
*Адвядзі ад Беларусі*
*Здраду,*
*Вераломства*
*І вайну.*
*Смутнаю парою нелюдзімай,*
*Калі ўсё вакол ідзе на злом,*
*Божа,*
*Захіні маю Радзіму*
*Мудрасцю,*
*Спакоем,*
*І цяплом.*

Быкаў, Брыль, Барадулін, цяпер вось Бураўкін. З адыходам гэтых вялікіх творцаў айчыннай літаратуры, прозвішчы якіх пачынаюцца на літару „Б", як і назва нашай краіны — нібыта пазнака асаблівай ласкі Бога, здаецца адыходзіць цэлая эпоха. Ёсць людзі, якіх нацы не заменіць ніхто. Менавіта такім быў Генадзь Бураўкін — дзяржаўны дзеяч, прадстаўнік Рэспублікі Беларусь у ААН, стваральнік нацыянальнага тэлебачання, але найперш геніяльны Паэт і вялікі Чалавек.

З Генадзем Бураўкіным мне пашчасціла быць знаёмым асабіста. Найчасцей даводзілася сустракацца ў Вільні на канферэнцыях і ўрачыстасцях беларусаў Балтыі. У 2011 г. на адной з такіх імпрэзаў Генадзя Мікалаевіча віншавалі з 75-мі ўгодкамі. Адзін з выступоўцаў тады сказаў, што толькі сваёй „Калыханкай" Генадзь Бураўкін зрабіў больш для адраджэння роднай мовы, чым многія цэлыя арганізацыі і ўстановы. Бураўкін напісаў мноства адметных твораў, якія ляглі ў скарбонку беларускай паэзіі. Многія з вершаў сталі папулярнымі песнямі: „Я не ганю зямлі чужыя" і „Незнаёмка", „Малітва" і „Белы снег", „Матылі" і „Зачараваная" — класіка нашай песеннай культуры. Але найбольш і па-сапраўднаму народнай стала менавіта „Калыханка" („Доўгі дзень"), музыку да якой напісаў стваральнік славутага некалі яшчэ за савецкім часам ансамбля „Верасы" — Васіль Раінчык.

На нашым студэнцкім курсе гарадзенскага гістарычнага факультэта была любімая песня „Жар-птушка" (у свой час першым яе выканаўцам быў ансамбль „Сябры"), якую мы часта спявалі пад гітару. Але толькі гадоў пяць таму я даведаўся, што яе словы стварыў таксама Генадзь Бураўкін, прычым напісаў іх у той год, калі нарадзілася бальшыня маіх аднакурснікаў. Спяваем мы яе заўсёды і зараз, калі збіраемся сяброўскай грамадой:

„Мы ідзём па сцяжынках, на якія не вернемся...".

Заўсёды ўражвала сціпласць Генадзя Бураўкіна і яго ўважлівасць да іншых. Ён не меў ні кроплі фанабэрыі, уласцівай многім іншым творцам. Нават намнога маладзейшых ён запамінаў з першага разу, ведаў, хто чым займаецца, трымаўся ў кампаніі на роўных. Расказваў такія гісторыі са свайго жыцця, якія проста прасіліся на дыктафон. Напэўна праз нейкі час мы прачытаем тое, што дагэтуль яшчэ не публікавалася. Быў носьбітам сапраўднай інтэлігентнасці і ўзорам беларускай прыстойнасці. Неяк так здаралася некалькі разоў, што прыязджаючы ў Мінск, мне шчасціла сустракаць яго выпадкова — на вуліцы, ці ў метро. Прымаючы з непадробнай шчырай радасцю апошнія выпускі беластоцкай „Нівы", Генадзь Мікалаевіч заўсёды пытаўся пра справы рэдакцыі, пра беларусаў Беласточчыны, перадаваў зычлівыя прывітанні. Ён сапраўды быў чалавекам усёй беларускай прасторы і жыва цікавіўся рознымі беларускімі праявамі і праблемамі.

На пахаванні і цырымоніі развітання з Генадзем Бураўкіным прамаўлялі многія беларускія дзеячы і літаратары. Было сказана багата шчырых, прыгожых і кранальных слоў, якія гучалі ўшанавальным рэквіемам. У самым канцы людзі спявалі песні на яго вершы. Гэта было надзвычай сумнае, але і адначасна нейкае светлае развітанне. Напэўна таму, што Генадзь Бураўкін пражыў насычанае, багатае на яскравыя падзеі і сяброў жыццё. Напэўна таму, што ён абдарыў усіх сваім паэтычным пяшчотным і ласкавым Словам як сапраўдным сонечным цяплом.

Ён аддаў Беларусі ўсё, што мог. Беларусь яму не аддала, не скарысталася напоўніцу талентам і дарам Паэта, не аддзячыла належна. На пахаванне правесці ў апошні зямны шлях гэтага чалавека прыйшло тысячы паўтары людзей, а мусілі прыйсці дзесяткі тысяч. Сталічныя ўлады на Усходніх могілках Мінска не адвялі яму пачэснага месца на бліжняй алеі, дзе пахаваныя многія выдатныя беларускія пісьменнікі і дзеячы культуры. Месца апошняга спачыну Генадзя Бураўкіна ў аддаленым сектары. Можа гэта таксама сімвалічна — ён быў, нягледзячы на свае рэгаліі і дасягненні, вельмі сціплым чалавекам. Зусім блізка з магілай Бураўкіна месца пахавання выбітнага спартоўца Рамуальда Кліма. Алімпійскі чэмпіён у свой час далей іншых у свеце кідаў молат. Народны паэт Бураўкін вышэй іншых сягаў у далячынь і глыбіню беларускім словам, якое ў яго бруілася, іскрылася, віравала, грала, лашчылася, ззяла і мела непаўторнае харастве і чароўнасць. Застаецца памяць, застаюцца вучні, шматлікія кнігі і песні. Застаецца яго геніяльная „Малітва за Беларусь", якая напэўна стане ў адзін ровень з гімнам „Магутны Божа" Наталлі Арсенневай. „Божа, не дабаў маіму народу пошасці, няпраўды і пакут"...

Светлая памяць...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**




# http://belarusjournal.com

Працы навукоўцаў, якія вывучаюць цэлыя народы, пэўна, заўсёды будуць карыстацца попытам. Гэта натуральна, бо найбольш цікаўным для людзей з'яўляюцца расповеды пра саміх сябе, а не пра нейкія машыны ці механізмы, жывёліны ці расліны. З навуковых прац аб тым, як тыя народы разважаюць, думаюць, глядзяць на свет, людзі чэрпаюць веды пра соцыум-наваколле, спрабуюць асэнсаваць сваё месца ў ім. Сучасны беларускі люд таксама не застаецца без увагі да сябе з боку даследчыкаў, у тым ліку замежных. І часопіс „Журнал беларускіх даследаванняў", што выдаецца ў Вялікабрытаніі, таму пацвярджэнне.

Калі нехта ніколі не трымаў гэтага часопіса ў руках, то нічога страшнага, бо ад летась можна пабачыць пра што там пішуць навукоўцы, дзякуючы сайту, што месціцца па адрасе http://belarusjournal.com. У яго дзве моўныя версіі — англійская і беларуская, прычым адна ад другой па насычанасці інфармацыяй ніяк не адрозніваюцца.

Варта адзначыць, што сайт выглядае даволі просценька, нягледзячы на высакародныя мэты па вывучэнню беларускага народа, якія ставіць перад сабой рэдакцыя часопіса. Ён мае падзел на дзве часткі, прычым другая месціць у сабе спасылкі на артыкулы па беларусазнаўчай тэматыцы іншых рэсурсаў.

„У 1965 годзе Англа-беларускае таварыства распачало публікацыю штогадовіка — Журнала Беларускіх Даследаванняў, з уступным словам прафесара Роберта Оці з Оксфардскага Ўніверсітэту. Штогадова Журнал распаўсюджваўся па ўніверсітэтах, бібліятэках і прыватных падпісчыках у Аб'яднаным Каралеўстве, Злучаных Штатах, Беларусі і іншых краінах ва ўсім свеце. Кожны нумар Журналу змяшчаў не толькі артыкулы па беларускай літаратуры, лінгвістыцы, гісторыі і мастацтву, але агляды кніг, хронікі актуальных падзеяў і ўсеабдымную бібліграфію папярэдняга году. Пачынаючы ад 2013 году, Журнал выдаецца сумесна Англа-беларускім таварыствам і Цэнтрам пераходных даследаванняў", — распавядаецца пра часопіс на галоўнай старонцы сайта.

У тым жа расповедзе прадстаўлена і рэдакцыйная калегія, якую ўзначальвае Яраслаў Крывой, прозвішча якога, праўда, напісана на галоўнай старонцы з памылкай. Ну а не памылкай, пэўна, будзе сцвярджэнне, што даны часопіс з'яўляецца найстарэйшым англамоўным рэцэнзаваным выданнем беларускіх даследаванняў.

Паколькі часопіс з'яўляецца штогоднікам, то пакуль у яго вэб-архіве толькі адзін мінулагодні нумар. Там даволі многа артыкулаў, прычым з кожным з іх можна пазнаёміцца ў pdf-фармаце. Выключэннем з'яўляецца рэдакцыйная калонка.

„Пасля дваццаці пяці гадоў маўчання „Часопіс беларускіх даследаванняў" аднаўляе сваю дзейнасць. Адроджаны „Часопіс" стане платформай, на якой беларускія і заходнія беларусісты змогуць друкаваць плён сваіх даследаванняў. Часопіс будзе выходзіць па-англійску і па-беларуску. З аднаго боку, гэта дазволіць беларусам прадставіць/паказаць краіну і яе развіццё са сваёй перспектывы на англійскай мове і ў адпаведнасці са стандартамі заходніх рэцэнзаваных выданняў. Пры гэтым, з дапамогай часопіса, заходнія акадэмічныя структуры бліжэй пазнаёмяцца з беларускімі даследнікамі", — піша Яраслаў Крывой, анансуючы змест артыкулаў адроджанага часопіса.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**




## Чалавек, які стварыў эпоху



# 80 гадоў з дня смерці Браніслава ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

Нарадзіўся беларускі навуковец і выдавец Браніслаў Эпімах-Шыпіла 16 верасня 1859 г. у фальварку Судзіловічы (цяпер вёска Будзькаўшчына Полацкага раёна). Паходзіў з сям'і дробнага шляхціца. Ахрышчаны ў касцёле ў Палюдавічах. Неўзабаве пасля нараджэння сям'я пераехала ў фальварак Залессе, дзе ён пазнаёміўся з ладам жыцця і традыцыямі беларускага народу. Калі яму было дзевяць гадоў, памёр бацька.

У 1871 г. Браніслаў паступіў у Аляксандраўскую польскую гімназію, у якой за выдатную вучобу быў вызвалены ад аплаты. Праз 9 гадоў скончыў гімназію з залатым медалём і паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбурскага ўніверсітэта. Скончыўшы яго, праз год атрымаў ступень кандыдата гісторыка-філалагічных навук. Здолеў уладкавацца памочнікам бібліятэкара на ўніверсітэце. У гэты час ён грунтоўна працуе ў галіне бібліяграфіі. Перыяд быў адзначаны плённай працай і новым этапам дзейнасці на карысць Беларусі. Эпімах-Шыпіла вядзе арганізатарскую працу па распаўсюдзе друкаванага слова, пашырэння кола асветнікаў.

Эпімах-Шыпіла быў адным з заснавальнікаў Круга беларускае народнае прасветы і культуры. Сябры гэтае арганізацыі паўлегальна займаліся друкаваннем і распаўсюдам беларускіх твораў. Шыпіла дапамагаў фінансава. Ён стаў адным з ініцыятараў стварэння першай і найбуйнейшай выдавецкай суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца", якая дзеяла ў 1906-1914 гг. Упершыню ў новай гісторыі быў наладжаны шырокі выпуск беларускіх выданняў. За час існавання выдавецтва выпусціла каля сарака кніг, надрукаваных накладам каля 100 тыс. асобнікаў.

Жывучы ў Санкт-Пецярбургу, не губляў сувязі з Беларуссю. Кожнае лета ён выязджаў на радзіму. У Залессі пабудаваў драўляны двухпавярховы дом, дзе захоўваў кнігі і шматлікія экспанаты для будучага беларускага музея, які марыў стварыць. Неаднаразова Эпімах-Шыпіла бываў у Вільні, дзе шмат працаваў у бібліятэках і архівах. Там ён пазнаёміўся з маладым паэтам Максімам Багдановічам, з якім потым вёў перапіску. Сябраваў з Янкам Купалам.

Першая сусветная вайна ўсё змяніла. Беларусь стала арэнаю жорсткіх баёў, а частка яе тэрыторыі была акупаваная. У Петраградзе было створанае дабрачыннае Беларускае таварыства па дапамозе пацярпелым ад вайны. Адным з яго арганізатараў быў Эпімах-Шыпіла. Ён шукаў новыя сродкі для ўзмацнення беларускага руху. Каля трох гадоў праводзіў заняткі па беларускай мове для навучэнцаў гімназіі пры касцёле.

У 1924 г. ён атрымоўвае афіцыйнае запрашэнне ў Мінск і абіраецца правадзейным сябрам Інстытута беларускай культуры. У Мінску актыўна ўключыўся ў культурнае жыццё. Працаваў у музейна-бібліятэчнай секцыі Інбелкульта, старшынёй камісіі па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы. Гэта была вельмі маштабная праца. У 1929 г. ён перадаў у дар Беларусі сваю асабістую бібліятэку, якую збіраў усё жыццё — 5 тысяч тамоў.

Па сфабрыкаванай справе Саюза вызвалення Беларусі 18 ліпеня 1930 г. быў арыштаваны і зняволены ў турму, дзе быў два месяцы. Эпімах-Шыпілу загадалі пакінуць Мінск. Па вяртанні ў Ленінград, ён апынуўся ў надзвычай цяжкім становішчы. Цягам чатырох год фактычна жыў у галечы. Памёр 6 чэрвеня 1934 г. Месца пахавання выдатнага навукоўца, які стварыў цэлую эпоху, дагэтуль невядомае.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# „Цаглінкі” зноў у Пружанах

Калі ў горадзе Пружаны свята, то ў госці прыязджаюць суседзі з Польшчы. Прайшло роўна год з той пары, як аматарскі калектыў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова зноў наведаў Пружаны і Пружанскі раён. На чарговую сустрэчу ехалі мы з асаблівым хваляваннем, бо на гэты раз нам прапанавалі даць 9 мая, на Дзень Перамогі, канцэрт на галоўнай пляцоўцы гарадскога парку, прымеркаваны да 70-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Канцэрта „Цаглінак” чакаў я з асаблівым хваляваннем, відаць таму, што люблю гэты калектыў і іх песні ў выкананні знакамітых артыстак і артыстаў. Пасля мітынгу „Цаглінкі” ў прыгожых сініх уборах выйшлі на сцэну. Калі гучалі знаёмыя беларускія песні, удзельнікі свята падпявалі выканаўцам. Амаль паўтары гадзіны пружанская публіка не адпускала спевакоў са сцэны.

У другой палавіне канцэрта „Цаглінак” прыйшла пара на беларускія, польскія і рускія песні мінулых гадоў, ад якіх публіка прыходзіла ў захапленне. З глыбокай пранікнёнасцю прагучалі песні пра любоў да роднай Беларусі.

Дальбог, ніколі я не бачыў, каб публіка так цёпла прымала артыстаў! Гледачы падпявалі кожнай песні, танцавалі, здымалі на відэа. Мора пазітыўных эмоцый і светлай радасці выклікалі ў сэрцах пружанцаў задушэўныя песні ў выкананні стараўляўкоўскіх спевакоў.

У Аранчыцкім Доме фальклору ў цёплай, сяброўскай атмасферы адбылася сустрэча з загадчыцай гэтай установы Яўгеніяй Васілюк і мясцовымі калектывамі „Бабіна лета” (кіраўнік Таццяна Пушко) і „Спатканне”. Перад сустрэчай спевакі „Цаглінак” наведалі помнік загінуўшым салдатам у вёсцы Аранчыцы, запалілі лампадкі-знічы, зрабілі здымкі на памяць.

Не менш цікавай была праграма на наступны дзень — экскурсія ў Раённы дом рамёстваў і майстар-класы па саломапляценню і абрэзкавым шыцці. Сустрэча з майстрамі рукадзелля атрымалася цікавай і запамінальнай.

З калектывам „Бабіна лета” ў Аранчыцах

Вядома, усё пабачанае і пачутае ў час нядаўняй паездкі ў Беларусь немагчыма апісаць у кароткай занатоўцы. Скажу толькі: „О, Беларусь, краса-шыпшына, а вочы сінія як лён, Ты ад сяброў „Цаглінак” прымі нізенькі паклон”.

На развітанне хочацца сардэчна падзякаваць усім арганізатарам сустрэчы, а ў першую чаргу начальніку аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Пружанскага райвыканкама Канстанціну Панімашу. Вяртаючыся дадому падумалася мне, што ў Беларусі жывуць добрыя людзі, што беларуская зямля шчодрая на іх як ніякая іншая. Да новых сустрэч!

**Тэкст і фота Віктара БУРЫ**

# Чаромхаўскі аповед (12)

Крадзяжы з вагонаў транзітных цягнікоў, як і айчыннага экспарту сталі на ПКП штодзённай з'явай. Дзяржаўная чыгунка несла па гэтай прычыне агромныя страты. А Чаромха, як прыёмна-здаўчы пагранпераход ПКП-СЖД (Савецкія жалезныя дарогі), вымушана была ўстараняць усе хібы. Дзеля гэтага працаўнікі гандлёвай службы вымушаны былі пасля праверкі вагонаў з парушанымі пломбамі састаўляць дзесяткі гандлёвых актаў па прычыне бракаў. Гэтым паталагічным заняткам, крадзяжамі займаліся не толькі савецкія салдаты, але і самі чыгуначнікі, адпраўшчыкі цягнікоў, кладаўшчыкі, агенты, а нават вартаўнікі службы аховы чыгункі. Сярод чыгуначнікаў папулярнай стала пагаворка: **„Co jest większe jak wesz, to z kolei bierz”.**

Найбольш крадзяжоў на станцыі Чаромха здаралася на зломе чэрвеня і ліпеня, калі савецкія салдаты падаваліся на цалінныя землі на ўборку ўраджаю. Станцыя была тады бітком набітая салдатамі. І хоць за парадкам мелі сачыць начальнік эшалона і дзяжурны афіцэр ЗКУ, ніхто не прытрымліваўся законных правілаў. Адно вартаўнікі службы аховы чыгункі круціліся быццам вужы. Але іх больш цікавіў бізнес, чым назіранне за парадкам на пуцях. Салдаты тым часам самапасам валэндаліся паміж транзітамі, без прычыны абрывалі пломбы. Здавалася, што рабілі яны на злосць чыгуначнікам. Але здараліся і пакражы...

На зломе 1980/1981 гадоў (дакладнай даты не памятаю) законны службу ў Чаромсе маёр Генадзій Казарэз. На яго месца падаслалі з Варшавы падпалкоўніка Аляксандра Шчарбіну. З новым камандзірам не прыходзілася ладзіць блізкіх суадносін. Мае кантакты абмяжоўваліся да службовых сустрэч у канторы перадачы, калі выконваў ён абавязкі дзяжурнага афіцэра. Зрэшты, быў гэта чалавек маўклівы, скрыты. Казалі, што са здароўем у яго былі клопаты. Шмат часу прабываў на звальненні па стане здароўя. У час адсутнасці камандзіра абавязкі начальніка выконваў капітан Валянцін Крусь. А ён быў „дзелавы” афіцэр фармату Генадзія Казарэза. Ладзіў кантакты з машыністамі ды аглядчыкамі вагонаў, якія мелі непасрэдны кантакт з вайсковымі цягнікамі. Часта прыходзілася сустракаць капітана ў Кузаве. Што прыводзіла афіцэра ЗКУ ў сялянскія парогі, не нам зараз „мазгаваць”.

Намагаюся пакрысе ўспомніць мінулыя будні пражытыя разам з ЗКУшнікамі. Калі працаваў я ў канторы перадачы агентам, спатыкаўся з імі штодзень. Лічыўся я супрацоўнікам на рабоце, а кампаньёнам у вольны час. З ЗКУшнікамі ездзіў я ў Мілейчычы на Дзень перамогі. Хадзілі мы разам па грыбы ў кузаўскі лес, ездзілі папіць піва ў Кляшчэлі, дзе „на горцы” сустракаліся з загадчыкамі мясарні і пякарні. Асабліву дружбу наладзіў я з новым шафёрам Ігарам Кандрашыным.

Падпалкоўнік Аляксандр Шчарбіна не змог закончыць прызідговага службовага кантракту ў Чаромсе. Яго на зломе 1985/1986 гадоў замяніў падпалкоўнік Славамір Сала. Мяне ў гэты час, значыцца ў 1986 годзе, перавялі з канторы перадачы на станцыйныя склады. Чаромха рыхтавалася да пабудовы тэхнічна-адміністрацыйнага павільёна з вакзалам. Чакалі мяне новыя задачы не толькі на працы, але і ў ладжанні належных адносін з новымі кадрамі ЗКУшнікаў.

*(працяг будзе)*

**Уладзімір СІДАРУК**

# Адгаданка

## Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — баскійскую пагаворку.

1. горад на Дунаю на поўначы Венгрыі = 27 _ 20 _ 7 _;
2. небывалы без агню = 10 _ 17 _ 18 _;
3. „цёплы” горад на поўдні Венгрыі = 3 _ 2 _ 19 _;
4. мангольскі ўладар = 29 _ 22 _ 11 _;
5. вялікі скрутак, напрыклад сена або саломы = 23 _ 28 _ 21 _;
6. эстонцы ў стараславянскіх летапісах = 16 _ 12 _ 25 _ 26 _ 24 _;
7. травяністая ядавітая лугавая расліна (*Veratrum*) = 15 _ 14 _ 5 _ 6 _ 13 _;
8. вопратка для шыі = 4 _ 9 _ 1 _ 8 _.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | 9 | 10 | 11 | 12 | | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | | | | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 19 нумара**

Азот, гул, дзед, дзіця, перац, Уса, хата, цень.

Рашэнне: **Хто не глядзіць уперад, астаецца ззаду**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 08.06 — 14.06

**(22.03. — 20.04.)** Ажыўленае кампанейскае жыццё. Але старайся больш адпачываць. Ды 7-11.06. маеш шанц мець немалыя поспехі на працы. Будзеш імі абавязаны сваёй цікавай індывідуальнасці і сіле пераконвання. Але з 12.06. у палымяным пачуцці можа наступіць ахаладжанне.

**(21.04. — 21.05.)** Увесь тыдзень будзе табе спадарожнічаць поспех у адносінах з процілеглым полам. Для цябе і тваіх блізкіх адкрыюцца спрыяльныя перспектывы. Няхай не турбуюць цябе якія-небудзь непрыемнасці: хутка яны бясследна знікнуць. І не забывай, хто з'яўляецца найбольш важнымі людзьмі ў тваім жыцці: надай пабольш увагі і часу сваім дамачадцам. 11-15.06. з-за сваёй лішняй боязі можаш падвергнуцца стратам.

**(22.05. — 22.06.)** Праява неспрыяльнай энергетыкі можа выклікаць у тваім жыцці хаос і напругу. Адмяні важныя планы і надай больш увагі самому сабе. Калі ты не паклапоцішся пра сваё здароўе неадкладна, то ў далейшым сутыкнешся з праблемамі. Ад 7.06. будзеш рассяроджаны і няздольны вырашаць важнае. З 13.06. кіруйся розумам, а не эмоцыямі.

**(23.06. — 23.07.)** Праява неспрыяльнай энергетыкі можа выклікаць хаос і напружанне ў тваім жыцці. У гэты перыяд падвышаецца небяспека, звязаная з агнём і электрычнасцю. Ад 9.06. будзеш мець аслаблены імунітэт, будзеш падатны на ўплывы; пільнуйся, з кім кантактуешся. З 11.06. агорне цябе знеахвочанне, нятрапна будзеш ацаняць свае шанцы.

**(24.07. — 23.08.)** Рухайся ў агульным патоку і не праяўляй ініцыятывы: на гэтым тыдні лепш не высоўвайся перад шэраг. Займайся рашэннем галоўнай праблемы, канчай асноўныя справы — усё астатняе можа пакуль пачакаць. Будзь асцярожны з электрапрыборамі, асабліва калі яны падключаны да электрасеткі. Магчыма, ты ці твае блізкія зараз падвяргаюцца якому-небудзь негатыўнаму ўздзеянню. Можаш стануць перад сямейным выбарам.

**(24.08. — 23.09.)** Не ўва ўсіх справах адчуеш прагрэс, з некаторых мерапрыемстваў трэба будзе табе адступіцца, а некаторыя могуць стануць у мёртвай кропцы. 7-11.06. свежазакаханыя зусім страцяць галаву. 11-15.06. спадуць табе „кляпкі” з вачэй адносна некаторых асоб. На працы шторaз лепш.

**(24.09. — 23.10.)** Да 9.06. фінансавыя і пачуццёвыя праблемы. 11-15.06. твае справы моцна ўскладняцца. Пільнуйся! Вельмі верагодна, што гэты тыдзень пачнецца з канфлікту. Праява неспрыяльных энергетык можа выклікаць у тваім жыцці хаос і напругу. Адмяні свае планы і надай больш увагі свайму здароўю.

**(24.10. — 22.11.)** 7-11.06. твае пачуцці стануць глыбокімі і выразнымі. Ніхто не ўстоіць перад тваёй красой і ўплывам! Знакаміты час на любоўныя сустрэчы. Ды аж да 23.06. цягне цябе да салодкай ляноты, забавы і фліртаў. А ўся пара пойдзе ў гудок (12-13.06.), калі будзеш дамаўляцца з людзьмі на супольныя мерапрыемствы; магчымы недахоп развагі і захапленне рэчамі нявартымі ўвагі.

**(23.11. — 22.12.)** Сам схочаш вырашаць аб сваім лёсе. Задбаеш аб сваю красу (да 23.06.), ды не сядай на вострую дыету — калі нават пахудзееш, вага вернецца. 12-14.06. прадвяшчае неспакой — некаторыя твае справы пойдуць у кепскі бок; не вырашай цяпер важнага.

**(23.12. — 20.01.)** 11-15.06. адкрыюцца перад табою новыя магчымасці, знойдзеш для сябе цікавы занятак, захопяць цябе рэчы, якімі ты раней не захапляўся. Маеш цяпер схільнасць да дадатковых заняткаў, што давядзе да росту ў заробках. Але 11-15.06. можаш звязацца з неадпаведнай асобай або ўвайсці ў лады з чалавекам, які табе зашкодзіць. Фінансавая дэпрэсія не мусіць абазначаць фінансавых стратаў. Не стаў спраў рубам.

**(21.01. — 19.02.)** Не будзь зайздросным. Дома госці. Добрая атмасфера ў радні. 11-15.06. будзеш канкрэтны, дасі рады ў справах патрабуючых цвярозага агляду, лёгка засяродзішся на найважнейшым.

**(20.02. — 21.03.)** Слухай голасу розуму. Добрыя і гарманічныя сустрэчы ў сям'і і сярод сяброў. З 12.06. (да 16.06.) могуць аднавіцца старыя траўмы — можа твая блізкая асоба аказацца нелаяльнай; не ўваходзь з сябрамі ў суполкі, асабліва фінансавыя. Вельмі пільнуйся, што п'еш і ясі, магчымыя атручанні і алергія.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Мірaслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# У бляску Эль Грэка ч. III

Нечаканым і дзіўным здаўся мне прызыў імя ксяндза Уладзіслава Чарняўскага з Вішнева. Сядлеччына моцна ўелася ў памяць беларускага святара, і невыпадкова. У міжваенны час польскія ўлады раскінулі беларускую каталіцкую семінарыю ў Друі.

Яны заставілі семінарыстаў і настаўнікаў бадзяцца па свеце. Адным з этапаў гэтай „ссылкі” быў падсядлецкі Скужэц. Час праведзены ў гэтай мясціне Уладзіслаў Чарняўскі запамятаў у змрочных колерах. Сілком адарваныя ад родных мясцін і навукі, беларускія семінарысты наймаліся ў гаспадароў за сімвалічную лусту хлеба. Жыццёвая мара служыць беларускім ксяндзом здавалася тады нерэальнай...

На вернісажы „У бляску Эль Грэка” беларускае гістарычнае пачуццё крыўды здавалася ў нейкай ступені адкупленым і дараваным. Такую падказку ўнушала атмасфера пленэру. Беларускія мастакі гаварылі з найбольшай цеплынёй і сімпатыяй пра духоўныя і свецкія асобы, якія запрасілі іх у Седльцы ды падтрымалі іх на духу. Паспрыялі ім праявіць сябе як паўнакроўных і вартасных мастакоў:

— У Беларусі ўсё па-іншаму. Нашыя падкапытныя мастацтвазнаўцы зробяць усё, каб прынізіць незалежнага творцу. Нас няма на агульнадзяржаўных і глабальных выставах, якія зараз з нагоды чэмпіянату па хакеі ладзяць у сталіцы, — адзначае з пачуццём крыўды Аляксей Марачкін. — Нам не хапіла месца ў альбомах пра беларускае сучаснае мастацтва, няма нас у музеях, карацей, яны сілком заганяюць у мастацкае падполле. Такая „ўзнагарода” чакае творцу, які адважыцца гаварыць пра духоўную спадчыну Беларусі.

* * *

Якраз на сядлецкім вернісажы тэма духоўнай спадчыны Беларусі ўражвала да касцей мазгоў. У цэнтры стаяў загадкавы трыпціх Аляксея Марачкіна, прысвечаны 1000-годдзю летапіснай Літвы. З левай створкі сустракае нас святы Бруна, хрысціцель старажытнай Літвы.

— Нашай Літвы, — удакладняе мастак. Твор прысвечаны гісторыку Міколу Ермаловічу, які стварыў тэорыю пра літоўскае паходжанне беларусаў...

У цэнтры — абраз „Камень веры”. Панад ажыўленым верай валуном лунае мінулае краіны беларусаў: Літвы ваяўнічай і слаўнай. Трыпціх папаўняе „Анёл”, які шмат у чым паўтарае і дапаўняе ды адначасова ахоўвае ідэю св. Бруна. На першы погляд уражвае суладдзе мастацкіх традыцый Захаду і Усходу. Нідэрландскае мастацтва спалучаецца тут з візантыйскай школай іканапісцаў. Падобная гармонія назіраецца ў спалучэнні язычніцкіх і хрысціянскіх сімвалаў. Па сутнасці, гэта трапная і жывая па сённяшні дзень ілюстрацыя беларускай духовасці. Пра язычніцкі працяг духовасці дбае сама дзяржава, якая дазваляе афіцыйна ладзіць „Купалле” ці „Дзяды” ды адначасова застаўляе сваіх грамадзян ісці на працу ў Вялікдзень ці Каляды.

Падляшскі беларус, хоць сам густа і часта практыкуе язычніцтва, з агідай адкіне заходнюю, рымскую традыцыю. Такім чынам ён будзе бараніць роднае праваслаўе. Усё, што ксяндзоўскае і каталіцкае, будзе явіцца яму падазроным і варожым. З насцярожанасцю будзе ўспрымаць творчыя міжканфесійныя кантэксты, якія хай і геніяльна асвятляць мінскія творцы.



Трыпціх Аляксея Марачкіна, прысвечаны 1000-годдзю летапіснай Літвы





Злева: Аляксей Марачкін і Алесь Пушкін



Карціна Эль Грэка

Я сама паддалася „падляшскім” настроям. Перад абразам блаславёнага Ежы Папялушкі я падумала пра падляшскую зайздрасць. Гэты абраз з ходу захапілі б беластоцкія каталікі. А кожны намёк пра супольнасць у хрысціянстве яны палічылі б правакацыяй або святататцтвам...

* * *

Сімбіёз хрысціянскага Усходу з Захадам нёс у сабе Эль Грэка (1541-1614), які сплятаў канфесійныя розніцы ў сваім мастацтве. Спачатку яму шанцавала, аднак пад канец жыцця ўсё адвярнулася ў некарысць мастака. Яго „незаходняя” эмацыянальнасць у карцінах нервавала і бянтэжыла.

Народжаны ў горадзе Кандыя на Крыце пачынаў іканапісцам. Пасля ўдасканальваў свае здольнасці ў мастацкіх майстэрнях Венецыі. Адтуль трапляе ў Рым, верагодна займаецца ў майстэрні Тыцыяна. З рымскіх гадоў, хоць не займеў там славы і багацця, засталіся легенды. Эль Грэка бязлітасна крытыкаваў Мікеланджэла Буанароці. Як кажа легенда, ён прапанаваў рымскаму папу замаляваць фрэскі мастака-генія, ды аднавіць славутую Сікстынскую капэлу сваімі малюнкамі!

З Рыма пераязджае ў Іспанію як прыдворны мастак караля Піліпа II. Апошнія гады свайго жыцця правядзе ў горадзе Таледа. Там узнікаюць яго шэдэўры, якія прыносяць славу і каралеўскую прыхільнасць. Праз дзесяць гадоў прышэлец з Крыта будзе лічыцца першым мастаком каталіцкай Іспаніі. Пасля ў яго адрас пасыплюцца словы крытыкі і незразумення. Яго мастацтва будзе нерваваць дэфармацыяй і экстатычным настроем герояў. Падоўжаныя постаці будуць успрымацца як хваравітая прага арыгінальнасці. Мастака ў рэшце рэшт прагоняць з каралеўскага двара. Нягледзячы на прыкры досвед, усе апошнія гады жыцця ён прысвеціць касцельнаму мастацтву, якое назначыць арыгінальнасцю і містычнай эмацыйнасцю. За сваю грэшную „арыгінальнасць” Эль Грэка заплаціць забыццём. Адкрыты нанова напрыканцы XIX стагоддзя, зойме месца сярод найбольшых мастакоў свету.

* * *

Атмасфера цуду не пакідала нас пасля вернісажу. Чамусьці, без рэальнага намеру і плану, мы вярталіся ў Беласток праз Касова-Ляцкае. Проста з'ехалі ў дарогу, якая завяла ў месца, якое ўвесь час сядзела дзесьці ў канцы галавы. Яшчэ па дарозе — каб было ўсё яснае — мы адкрылі кругавую плошчу імя Ежы Папялушкі. Гэта было ў нейкім пасёлку, якога па сённяшні дзень не магу адшукаць на карце.

Заходняя сцяна Сядлеччыны здалася намнога больш цывілізаванай і багатай за ўсходнюю, якой мы дабіраліся ад Сямятыч. Недзе ў вёсцы мы абмінулі дзве цёткі, якія выправіліся на прагулку паўз шашу. Яны практыкавалі нарвежскую хадзьбу з палкамі.

Невыносна інтрыгаваў нас выпадак, які прывёў абраз святога Францішка ў Касова-Ляцкае. Тым больш, побач Касова-Ляцкага мы адшукалі лагічную паслядоўнасць: значыць, Касова-Рускае. Як падаюць крыніцы, з XVI стагоддзя ў мясціне знаходзілася праваслаўная царква. Нас уразіла, што адзіны „польскі” абраз Эль Грэка знайшоў сабе схоў на памежжы ўсходняга і заходняга хрысціянства. У гэтым экуменічным і крыху беларускім кантэксце вельмі хацелася думаць пра новую карціну Аляксея Марачкіна пад загалоўкам „Святы Францішак Дабрадзей”. Эскіз паразіў настроем і прастатою. Святы Францішак сустрэў на сваёй дарозе бедную жанчыну. Ён абдароўвае яе яблыкамі. Тая сціпласць і дабрыня на карціне Марачкіна прамовіла як беларускае хрысціянства. І чамусьці цешылі словы:

— Забяру з сабой у Беларусь, — кажа Аляксей Марачкін, — каб у сябе, ужо на спакойна закончыць гэтую карціну.

Фота і тэкст Ганны **КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960